КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 41 (362) ◂ 1 лістапада ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**ВОЛЬГА ГРЫЦУК**

Стар. 15

**СЕРБІЯ ПРАЗ 13 ГАДОЎ: ПАЛІТЫЧНЫ ЛАНДШАФТ**

«Мілошавіч сышоў, Мілошавіч застаўся». Менавіта гэтае меркаванне я пачуў ад маіх сербскіх суразмоўцаў — калег-журналістаў, навукоўцаў, экспертаў, актывістаў грамадскіх арганізацый падчас нашых працяглых сустрэч і размоў у Бялградзе

Стар. 4–5

**УГА НУМАР ДВА**

У Беларусі з візітам знаходзіўся Рафаэль Карэа, якога называюць пераемнікам Уга Чавеса на пасадзе лідара лацінаамерыканскіх левых

Стар. 12

**КАСТУСЬ ЕЗАВІТАЎ: ПАМІЖ «ОЗАЛАМ» І «БРАНЯНОСЦАМ»**

Стар. 14

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ КАГНІТЫЎНАГА АСЯРОДДЗЯ**

Нарыс Сяргея Нікалюка з цыклу «Азбука паліталогіі»

▸ **З НАГОДЫ**




# НА ЗАХОДНІМ ФРОНЦЕ БЕЗ ПЕРАМЕНАЎ

Сяргей ПУЛЬША

**Еўропа вырашыла, што з Беларуссю нічога не зробіш. Маштабная зверка гадзіннікаў напярэдадні саміта Усходняга партнёрства ў Вільні паказала, што ў Беларусі і Еўропы ўсё яшчэ розныя часавыя паясы. Прычым, і ў наўпроставым, і ў пераносным сэнсах.**

Найперш, шмат вэрхалу нарабіў візіт у Беларусь двух еўрапейскіх дыпламатаў: напрыканцы мінулага тыдня да нас завіталі дырэктара па палітычных пытаннях МЗС Польшчы і МЗС Швецыі Яраслаў Браткевіч і Торб'ёрн Сульстрэм. Відавочна, што гэты візіт быў у межах падрыхтоўкі да таго самага саміта УП. Але варта зазначыць узровень такога кантакту. Калі па ўсіх астатніх краінах — удзельніцах УП ездзяць міністры замежных спраў Польшчы і Швецыі Радаслаў Сікорскі і Карл Більдт, то «мінскі візіт» ажыццявіўся нават не на ўзроўні намеснікаў замежных справаў: прыехалі дырэктары палітычных пытанняў.

У прынцыпе, ужо шмат казалася, што «беларускае пытанне» на гэтым саміце ператварылася з першапачатковага ў другаснае. Найперш, канешне, усіх цікавіць пагадненне Украіны аб асацыяцыі з ЕС.

Да таго ж, Беларусь сама не выканала ніякія нормы і ўмовы, па якіх мог бы быць прагрэс у адносінах. Найперш, у беларускіх турмах застаюцца палітвязні. І гэта тое пытанне, без адказу на якое прагрэс у адносінах з ЕС немагчымы.

Важнасць пытання наяўнасці палітзняволеных прадэманстравалі і Еўрасаюз. Як паведаміла кіраўнік прадстаўніцтва ЕС у Мінску Майра Мора, выступаючы 29 кастрычніка на міжнароднай канферэнцыі «Стратэгіі будучай палітыкі ЕС у дачыненні да Беларусі» ў Вільні, Рада ЕС прадоўжыць дзеянне санкцый у дачыненні да беларускіх чыноўнікаў да 31 кастрычніка 2014 года.

30 кастрычніка з «чорнага спісу» выкраслілі 13 чалавек і пяць прадпрыемстваў: ЕС лічыць, што «больш няма прычын для знаходжання іх у спісе».

Варта адзначыць, што скарачэнне спісу неўязных у Еўропу ніякім чынам не азначае «паляпшэнне сітуацыі» альбо «разуменне Еўропай памылковасці сваіх дзеянняў». Проста гэты спіс карэктуецца штогод.

Акрамя таго, па словах Моры, Еўрасаюз працягне аказваць падтрымку беларускаму народу. «За апошнія два гады ЕС узмацніў падтрымку беларускай грамадзянскай супольнасці і беларускага народа ў цэлым. Еўрасаюз узмоцніць дыялог з грамадзянскай супольнасцю, у тым ліку і праз праграму «Еўрапейскі дыялог для мадэрнізацыі Беларусі». Яна патэнцыйна можа стаць каналам зносін як з беларускім грамадствам, так і з уладамі», — сказала яна.

Тое, што падтрымка грамадзянскай супольнасці афіцыйным Мінскам успрымаецца як стварэнне і падтрымка «пятай калоны», ні для каго не сакрэт. Працяг такой падтрымкі найперш азначае, што Еўропа ў бліжэйшай перспектыве не чакае, што ў Беларусі нешта зменіцца.

На еўрапейскім фоне неяк незаўважна прайшло яшчэ адно мерапрыемства. 28 кастрычніка на пасяджэнні Генеральнай асамблеі ААН у Нью-Ёрку разглядалі даклад аб сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. Дакумент быў падрыхтаваны спецдакладчыкам Савета ААН па правах чалавека Міклашам Харашці. Асноўная ўвага ў дакладзе надаецца правам чалавека ў кантэксце выбарчых працэсаў у Беларусі. Беларускія ўлады, гаворыцца ў дакладзе, павінны забяспечыць правядзенне выбарчай і заканадаўчай рэформы з удзелам «шырокага кола зацікаўленых асобаў, нават калі законапраект ужо ўнесены на разгляд парламента», а таксама гарантаваць наяўнасць незалежных выбарчых камісій, забяспечыць адкрыты падлік галасоў з поўным і адкрытым наглядам за падлікам з боку чальцоў выбарчых камісій і іншых зацікаўленых асоб.

Іншая справа, што Беларусь не прызнае ані самога спецдакладчыка ААН, ані яго дакументы. І ўпарта заяўляе, што ўсе рашэнні Камітэта па правах чалавека і іншых ААНаўскіх структураў носяць характар рэкамендацый, а таму выконваць іх неабавязкова. А калі неабавязкова — то і не выконвае.

На такім фоне шэраг аналітыкаў пачалі казаць, што афіцыйны Мінск можа праігнараваць саміт Усходняга партнёрства ў Вільні. Сапраўды, калі ніякага прагрэсу ў дачыненнях з заходнім светам у Беларусі няма, то навошта туды ехаць? У нас і сваіх праблемаў хапае.

Тым больш, што калі Беларусь праігнаруе саміт УП, гэта будзе не ўпершыню. У 2011 годзе на аналагічнае мерапрыемства ў Варшаву тады яшчэ міністр замежных справаў Сяргей Мартынаў не паехаў. Замест яго мог бы ўдзельнічаць пасол Беларусі ў Польшчы Віктар Гайсёнак, але ён пакрыўдзіўся, што яго не пакармілі. Дакладней, прычынай дэмаршу пасла было тое, што ён не атрымаў запрашэння на ўрачыстую вячэру ў межах саміта.

Да таго ж ва ўладаў ёсць яшчэ адзін моцны раздражняльнік — апазіцыя. Яна ўжо традыцыйна падцягнецца ці на сам саміт, ці на яго паралельныя структуры, кшталту парламенцкай асамблеі УП альбо Форума грамадзянскай супольнасці. Дый розныя эміграцкія арганізацыі могуць зрабіць сустрэчу афіцыйнай беларускай дэлегацыі ў Вільні вельмі гарачай.

Гэта не прычына, каб ігнараваць саміт? Можа быць. Але ўлады ўжо праігнаравалі перадсамітаўскую канферэнцыю, зладжаную па ініцыятыве Германіі. Менавіта таму, што арганізатары канферэнцыі паспрабавалі пасадзіць за адзін стол каардынатара «Гавары праўду!» Андрэя Дзмітрыева і намесніцу міністра замежных спраў Алену Купчыну. Відавочна, што хтосьці павінен быў не з'явіцца, і, зразумела, гэта была Купчына.

Такім чынам, пытанне пра тое, наколькі Беларусі патрэбны і саміт УП, і сама праграма «Усходняе партнёрства», застаецца адкрытай. Зразумела, афіцыйны Мінск хацеў бы атрымліваць ад яе выключна эканамічныя бонусы, без палітычных пытанняў у якасці дадатку.

У выніку, так доўга і ўпарта дамагаўшыся запрашэння на саміт УП, афіцыйны Мінск можа яго праігнараваць з-за яўнай адсутнасці ў ім будзь-якой карысці для ўладаў. Пытанне ж застанецца: «За што тады змагаўся Макей больш за год?» Але гэта ўжо іншае пытанне.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ВІЦЕБСК. КОЛЬКАСЦЬ ЗАБАРОНЕНЫХ ПІКЕТАЎ ПЕРАВАЛІЛА ЗА 50

**Апошнюю адмову ад адміністрацыі Першамайскага раёна атрымалі Аляксей Гаўруцікаў і Хрыстафор Жаляпаў. 29 кастрычніка яны хацелі правесці пікет салідарнасці з палітвязнямі.**

Каардынатар Руху «За свабоду» па Віцебскай вобласці Хрыстафор Жаляпаў і актывіст аргкамітэту па стварэнні сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Аляксей Гаўруцікаў падрыхтавалі заяўку такім чынам, каб у раённых уладаў было найменей падставаў адмовіць. Пікет салідарнасці з палітвязнямі быў прызначаны на будзённы дзень, бо перадапошнім разам актывістам не ўдалося заключыць дамову на абслугоўванне акцыі з медыкамі. З цэнтральнай гарадской паліклінікі адказалі, што ў выхадныя няма магчымасці арганізаваць дзяжурства машыны хуткай дапамогі, бо іх на працы і так нямнога.

«Гэтым разам медыкі адмовілі нам ізноў. Але ўжо не ўказаўшы аніякае прычыны ўвогуле — проста напісалі, што немагчыма заключыць з намі дамову, дый усё! З міліцыі на наш запыт мы ўвогуле не дачакаліся адказу. Прынамсі, ліст пра забарону акцыі з Першамайскай раённай адміністрацыі мы ўжо атрымалі, а з управы МУС — не. Хаця лісты па адказных структурах мы разаслалі раней, чымсьці падавалі заяўку. Такім чынам, з усіх адрасатаў станоўчы адказ мы атрымалі толькі ад структуры ЖКГ, яны не супраць заключыць з намі дамову на прыборку пасля пікета», — распавёў Аляксей Гаўруцікаў.

«У 2011 годзе мы са спадаром Жаляпавым падавалі заяўкі штомесяц. У мінулым годзе, можа, крыху радзей. Сёлета — зноў штомесяц. Апрача нас, актыўна падаюць заяўкі сябры Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ, праваабаронцы. Адным слова, штук 50 заявак дакладна было пададзена. Але — беспаспяхова. Бо рашэнне гарвыканкаму выканаць нікому не ўдаецца: адказныя структуры — а гэта міліцыя, ЖКГ і медыкі — адмаўляюцца з намі супрацоўнічаць, спасылаючыся на розныя прычыны. А то і ўвогуле без тлумачэнняў, як апошнім разам, калі нам забаранілі праводзіць пікет салідарнасці з палітвязнямі».

Паводле spring96.org

### ГОМЕЛЬ. УШАНАВАЛІ АХВЯРАЎ ТАТАЛІТАРЫЗМУ

**Крыж памяці ўсіх загінуўшых ад таталітарных рэжымаў у XX стагоддзі ўсталявалі ўначы з 29 на 30 кастрычніка сябры гомельскай кааліцыі «Наша Альтэрнатыва» на месцы, дзе раней была турма НКУС. Побач з гэтым месцам адбываліся расстрэлы мірных жыхароў у сталінскія часы.**

«У ноч 29–30 лістапада 1937 года ў сутарэннях Мінскай унутранай турмы НКУС былі расстраляны больш за 100 прадстаўнікоў беларускай інтэлектуальнай эліты. Тады адначасова былі знішчаны лепшыя людзі Беларусі. Сёння рэпрэсіі носяць іншы характар — людзей кідаюць у турмы, выганяюць з працы, з навучальных установ. Але мэта ў нашчадкаў Леніна—Сталіна не змянілася — знішчыць волю народа, гістарычную памяць, зрабіць рабамі імперыі, якая вось ужо на працягу трох стагоддзяў пакаленнямі знішчае многія народы, якія яе насяляюць», — распавёў Андрусь Цянюта, сустаршыня Маладога Фронту.

«Мы ўсталявалі гэты крыж у памяць тых, хто быў закатаваны злачынным таталітарным савецкім рэжымам. Яны былі забіты толькі за тое што, хацелі людзьмі звацца, карміць па-чалавечы сваіх дзяцей, апранаць нармальную вопратку і быць вольнымі. Вось за гэта іх і расстралялі. Вынішчаўся народ нацыя, такім чынам ствараўся гомасавецікус — раб», — адзначыў удзельнік мерапрыемства Зміцер Карашкоў.

Паводле spasemstranu.com

### МАГІЛЁЎ. АШТРАФАВАНЫ ЛІДАР МАГІЛЁЎСКІХ ДЭМАКРАТАЎ

**29 кастрычніка суд Ленінскага раёна Магілёва ў асобе судзі Алены Волкавай аштрафаваў старшыню Магілёўскай абласной кааліцыі дэмакратычных сіл Юрыя Новікава на 5 850 000 рублёў (45 базавых велічынь) за распаўсюд улётак і збор подпісаў супраць расійскай авіябазы.**

У якасці доказаў паслужылі сем улётак і падпісныя лісты, канфіскаваныя ў Юрыя Новікава пры затрыманні, якое адбылося вечарам 8 верасня каля дома №29 на вуліцы Ленінскай у Магілёве.

«Рашэнне суда цалкам супярэчыць Канстытуцыі і Законам Рэспублікі, бо партыйныя ўлёткі Аб'яднанай грамадзянскай партыі і Беларускага народнага фронту, якія былі пры мне, а таксама падпісныя лісты ніяк не з'яўляюцца сродкамі масавай інфармацыі. Тым больш, што ва ўлётках былі выходныя дадзеныя. Рашэнне раённага суда будзем аспрэчваць у Магілёўскім абласным судзе», — гаворыць Юрый Новікаў.

У судзе ў якасці сведкаў былі дапытаны два чалавекі, якія паставілі свае подпісы супраць расійскіх базаў у Беларусі. Адзін з іх зазначыў, што гэтым людзям варта даваць медалі, а не прыцягваць іх да адміністрацыйнай адказнасці.

Праваабаронца Барыс Бухель адзначае, што за адну ўлётку Юрый Новікаў атрымаў больш за 800 тысяч штрафу.

«Гэта прэцэдэнт, што за распаўсюд улётак і збор подпісаў штрафуюць як за распаўсюд сродкаў масавай інфармацыі. Тым больш, што штраф несувымерны «праваапарушэнню», — адзначыў праваабаронца.

spring96.org

---

МЕРКАВАННЕ

# БЕЛАРУСЬ ВЕРНЕЦЦА НА ШЛЯХ ДЭМАКРАТЫІ

Генадзь КЕСНЕР

**29 кастрычніка ў Вільнюсе, дзе адзначаецца дваццаціподдзе дзейнасці ў Літве Фонду імя Конрада Адэнаўэра, прайшла сустрэча кіраўніка фонду, нядаўняга прэзідэнта Еўрапарламента прафесара Ханса-Герда Пётэрынга з журналістамі.**



***— Набліжаецца лістападаўскі саміт Усходняга партнёрства. Ці з'яўляецца ўвогуле Беларусь паўнавартасным удзельнікам Усходняга партнёрства?***

— Вельмі важна, каб Еўрасаюз размаўляў яснай і зразумелай мовай, калі гаворка вядзецца пра дэмакратыю, свабоду і правы. І наша мова ў дачыненні да Беларусі, якая з'яўляецца дыктатурай, мусіць быць тым больш дакладнай. Наша мэта — каб Беларусь, спадзяюся, не ў вельмі аддаленай перспектыве стала дэмакратычнай краінай, дзе б панавала права.

Мы яшчэ некалькі гадоў таму вельмі спадзяваліся, што беларускае кіраўніцтва павернецца тварам да Еўрасаюза, стане на шлях дэмакратыі, але гэтыя спадзяванні не спраўдзіліся. Тым не менш, у дачыненні да аўтарытарных і дыктатарскіх рэжымаў варта выкарыстоўваць магчымасці двайной стратэгіі. Гэта азначае, што мусіць быць гатоўнасць да дыялога, але пры гэтым павінна быць ярка выражаная гатоўнасць адстойваць нашы каштоўнасці.

Калі на лістападаўскім саміце Усходняга партнёрства Беларусь будзе прадстаўлена афіцыйна, то я чакаю, што ўсе ўдзельнікі форума з боку Еўрасаюза зразумелаю моваю давядуць, што найперш павінны быць вызвалены ўсе палітычныя зняволеныя. А таксама тое, што пасля вызвалення ўсім палітзняволеным павінна быць прадстаўленая магчымасць для паўнавартаснага заняцця палітычнай дзейнасцю. Іншымі словамі, усе яны мусяць быць рэабілітаваныя.

***— У беларускай апазіцыі існуюць супрацьлеглыя меркаванні наконт санкцыяў у дачыненні да высокапастаўленых чыноўнікаў ды бізнэсоўцаў. Наколькі сёння санкцыі з'яўляюцца эфектыўнымі?***

— Калі ўводзяцца санкцыі, яны ніякім чынам не мусяць негатыўна адбіцца на простых людзях. Але кіраўнікі рэжыму ні ў якім разе не павінны мець перавагаў у сваіх стасунках з Еўрасаюзам перад звычайнымі грамадзянамі, таму я выступаю за санкцыі ў дачыненні да лідараў рэжыму. Пакуль беларускі народ не жыве ў свабодзе, у дэмакратыі, у прававой дзяржаве, я лічу, што для вышэйшага кіраўніцтва не павінна існаваць свабоды ўезда на тэрыторыю Еўрасаюза.

***— Некаторыя краіны, напрыклад, Славенія, час ад часу Латвія і Літва пад уціскам бізнэсструктураў, якія зацікаўленыя ў сумесных праектах з Беларуссю, выступаюць супраць унясення ў «чорны спіс» бізнэсоўцаў, блізкіх да рэжыму. Як вы ставіцеся да гэтага?***

— Трэба разглядаць кожны канкрэтны выпадак. Для мяне асабіста дэмакратычныя каштоўнасці заўжды маюць пераважнае значэнне перад іншымі інтарэсамі. Калі нейкі прадпрымальнік у Беларусі шчыра падтрымлівае рэжым і дапамагае яму, то я б выступаў за санкцыі ў дачыненні да такога бізнэсоўца. Калі ж прадпрымальнік імкнецца вырвацца з абдымкаў Лукашэнкі, адысці ад палітыкі, то я б разглядаў такі выпадак зусім інакш.

***— Існуе меркаванне, што санкцыі штурхаюць Беларусь у абдымкі Расіі. Вы з гэтым згодны?***

— Беларусь сама павінна прымаць рашэнне, зблізіцца з Еўрасаюзам ці з Масквой. Прынамсі яшчэ некалькі гадоў таму ў нас было спадзяванне, што рэжым адкрыецца ў бок ЕС, але гэтага не адбылося. Лукашэнка прыняў рашэнне далучыць краіну да пуцінскага праекта Еўразійскага эканамічнага саюза.

Але я спадзяюся, што прыйдзе час, калі дыктатара ўжо не будзе, і новы ўрад зразумее, што ў нас агульныя каштоўнасці — дэмакратыя, правы чалавека, прававая дзяржава, свабода. І тады Беларусь зможа па-новаму зарыентавацца. Я спадзяюся, што цяперашняе рашэнне дыктатара — гэта не навечна, і змены надыдуць са знікненнем рэжыму.

---

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ДЗЯРЖАВА — ГВАЛТОЎНЫ ДАБРАДЗЕЙ

Дзмітрый ГАЛКО

**На мінулым тыдні ў Стакгольме прайшло мерапрыемства пад гучнай назвай — «Новая глабальная дамова паміж капіталам і працоўнай сілай».**

Арганізаванае яно было «Прагрэсіўным альянсам», палітычным інтэрнацыяналам, створаным пасля адмовы Сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі плаціць унёскі ў Сацінтэрн.

У стакгольмскай сустрэчы ўзялі ўдзел дэлегаты з розных куткоў свету, ад Швейцарыі да Зімбабвэ. Што цікава, у адрозненне ад іншых краін, якія звычайна былі прадстаўлены адным дэлегатам, ад Беларусі бралі ўдзел прадстаўнікі адразу чатырох арганізацыяў: Беларускай партыі левых «Справядлівы свет», БСДП (Грамада), аргкамітэту Беларускай партыі працоўных і аргкамітэту Беларускай жаночай партыі «Надзея».

«Цалкам натуральна, бо мы ж найбольшая краіна ў свеце», — жартавалі беларускія дэлегаты, адказваючы на здзіўленыя позіркі іншых удзельнікаў. Вядома, гэта сведчыць пра вялікую цікавасць шведаў, гаспадароў сустрэчы, да сітуацыі ў Беларусі.

Сітуацыя ж у нашай краіне, як адзначалі беларускія дэлегаты, адрозніваецца тым, што асноўнае супрацьстаянне ідзе тут не па лініі «капітал — працоўная сіла». Капітал знаходзіцца ў падпарадкаванай пазіцыі. Нават калі ён не належыць «прыдворным» бізнэсоўцам, зніштаваным з уладай, так ці інакш кантралюецца ёй. Таму не з'яўляецца самастойным гульцом, з якім можна весці перамовы.

Дык, можа, вось яно — рашэнне праблемы? Моцная дзяржава, якая не дае кроку ступіць хціваму капіталісту без свайго дазволу, надзейна трымае яго ў цуглях. Урэшце, хіба не актыўная роля дзяржавы ляжыць у аснове «скандынаўскай мадэлі», якую прапагандавалі ў якасці ўзору на стакгольмскай сустрэчы? Пра арыентацыю на яе калісьці казаў і Аляксандр Лукашэнка.

Сапраўды, калі б гаворка ішла толькі пра ступень дзяржаўнага ўмяшальніцтва ў эканоміку і грамадскае жыццё, па гэтым паказчыку Беларусь магла б даць фору скандынаўскім краінам.

Але ў скандынаўскіх краінах дзяржава з'яўляецца толькі пасярэднікам паміж сацыяльнымі групамі, і падпарадкавана грамадству. У Беларусі ж дзяржава прэтэндуе на цалкам самастойную ролю — гвалтоўнага дабрадзея, з пугай у адной руцэ, з пернікам у другой, які ні перад кім не нясе адказнасці і душыць усялякую ініцыятыву. Значнай часткай грамадства, нягледзячы на «пернікі», такая дзяржава ўспрымаецца як варожая. Або проста як нешта знешняе, далёкае і чужое.

Адсюль вельмі нізкі, у параўнанні са скандынаўскімі краінамі, узровень даверу не толькі да дзяржаўных інстытутаў, але і паміж людзьмі. Ён і не можа быць высокім у расколатым грамадстве, пазбаўленым ініцыятывы. Такое грамадства не ў стане быць суб'ектам дзеяння, уплываць на працэсы ў краіне. І гэта адкрывае шлях для таго, каб дзяржава дзейнічала найперш у інтарэсах групы людзей, якія стаяць за ёй. У тым ліку — у інтарэсах «прыдворных» бізнэсоўцаў.

Таму кансалідаваная пазіцыя беларускай дэлегацыі ў Стакгольме палягала ў тым, каб галоўнай умовай будучай «глабальнай дамовы» была дэмакратызацыя на нацыянальным узроўні.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# БЕРАГУЦЬ ЦІ СЦЕРАГУЦЬ?

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Здаецца, мінская міліцыя падчас саміта СНД і пасяджэння Еўразійскага эканамічнага савета недавыканала план. Інакш ніяк не патлумачыш тую істэрыю, якая прысутнічала ў «супрацоўнікаў у форме» 29 кастрычніка, падчас традыцыйнага памінання ахвяраў сталінскіх рэпрэсій у Беларусі.**

Тым больш, што 29 кастрычніка розныя грамадскія ініцыятывы і арганізацыі ўжо не першы год ладзяць своеасаблівы марафон па месцах расстрэлаў бязвінна асуджаных людзей у сталінскі час. Але, падаецца, такога супрацьстаяння не было ніколі.

Напачатку марафона, пасля таго як былі ўскладзеныя кветкі на магілы ахвяраў сталінскіх рэпрэсій на Кальварыйскіх могілках, міліцыя затрымала 23 удзельнікаў акцыі, у тым ліку журналістаў і васьмігадовага хлопчыка. Усіх затрыманых даставілі ў актавую залу Фрунзенскага РУУС. Там удзельнікі акцыі ўчынілі сапраўдны дэбош: стоячы памаліліся за палітвязняў, затым выканалі «Магутны Божа» і сталі скандаваць: «Жыве Беларусь!».

Праз нейкі час усіх адпусцілі. Але на гэтым захопы не скончыліся. У сярэдзіне дня ізноў затрымалі журналістаў Аляксандра Баразенку і Марыю Арцыбашаву. Супрацоўнікі прэсы не спадабаліся тым, што рабілі на вуліцы відэапытанне. Іх таксама вызвалілі праз тры гадзіны.

Узнікае пытанне: што гэта было? Каму перашкаджалі людзі, якія ўскладаюць на магілках кветкі і там жа моляцца? Здаецца, гэта натуральны працэс, які можна пабачыць на любых могілках час ад часу. Навошта міліцыя так неадэкватна зрэагавала на такую звыклую ўжо падзею?

Ніякім чынам, акрамя як невыкананнем плана па затрыманых падчас саміта СНД, гэта патлумачыць немагчыма. Канешне, нашы апазіцыянеры — не радыкальныя «зялёныя», але ж і саміт СНД — не «вялікая васьмёрка», каб ладзіць падчас яго радыкальныя акцыі супраціву. У выніку «недабор» па затрыманых «там» ператварыўся ў дзіўны перабор па затрыманых «тут». Нейкі закон захавання працы міліцыянтаў у дзеянні.

Дарэчы, міліцыя на гэтым тыдні нас не перастае радаваць. У Першамайскім і Фрунзенскім раёнах Мінска пачалі праводзіць цікавы эксперымент: нарады міліцыі нясуць службу ў грамадзянскай вопратцы.

Як расказаў першы намеснік камандзіра палка ППСМ ГУУС Мінгарвыканкама Віталь Нілаў, перавагі такога прыёму відавочныя. «Грамадзянскія» патрулі перарываюць куды больш правапарушэнняў, чым іх калегі ў форме. Увогуле, у людскім патоку яны не вылучаюцца, могуць наблізіцца да зламыснікаў ушчыльную, прасачыць за імі, своечасова затрымаць.

Эксперымент распачаты па ініцыятыве Галоўнага ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі МУС. Паводле Нілава, пакуль што не ўзнікла ніякіх канфліктных сітуацый. Калі такія супрацоўнікі падыходзілі да правапарушальнікаў, прад'яўляючы службовыя пасведчанні, тыя не пярэчылі і выконвалі ўсе патрабаванні праваахоўнікаў.

Што ж, калі эксперымент працягваецца паспяхова, трэба яго пашыраць. А давайце дазволім супрацоўнікам міліцыі патруляваць нейкія асаблівыя кропкі п'янымі! Напрыклад, у традыцыйных «распівачных» месцах каля аўтазавода альбо трактарнага. Яны нічым не будуць вылучацца сярод «адпачываючых» рабацяг, і таксама шмат правапарушэнняў здольныя выявіць! Можна надаць такім міліцыянтам права пагандляваць якім-небудзь «спайсам» ці іншымі наркотыкамі — выключна ў мэтах прафілактыкі правапарушэнняў. А тое бедны наркакантроль бегае за наркаманамі па ўсяляких «хазах» — лепш хай наркошы самі прыходзяць да міліцыянтаў.

Шмат яшчэ чаго можна прыдумаць карыснага. Але варта адзначыць, што форму міліцыі і паліцыі прыдумалі не з бухты-барахты. Галоўная мэта формы — прадухіленне правапарушэнняў. А галоўная мэта «бяздформеннасці», падаецца, — менавіта ў «выкананні плана» па затрыманнях правапарушальнікаў, што не адно і тое ж.

Між тым, менавіта за парушэнні правоў чалавека нас крытыкуюць у ЕС. На тыдні Еўрасаюз удакладніў спіс асобаў, якім забаронены ўезд у межы Еўрасаюза, і спіс прадпрыемстваў, да якіх дзейнічаюць санкцыі. Са спісу выпалі былыя суддзі, былыя старшыні выбарчых камісій абласнога ўзроўню, былыя пракуроры, былы міністр інфармацыі Уладзімір Русакевіч — усяго 13 асобаў. З санкцый выдалілі пяць кампаній Уладзіміра Пефціева: ААТ «Дзелавая сетка», ЗАТ «Сістэмы інвестыцый і інавацый», ПУП «Сен-Ко», ПУП «БТ Інвест», «Тэхнасаюзпрыбор». Сам Пефціеў, тым не менш, застаецца ў спісе невыязных пад нумарам 147. А застаюцца ў спісе кампаніі Юрыя Чыжа і 232 асобы. Дадалі ў спіс начальніка Бабруйскай папраўчай калоніі №2 Аляксандра Какуніна і яго намесніка Юрыя Трутко, — у гэтай калоніі адбывае пакаранне праваабаронца Алесь Бяляцкі.

Гэтая навіна засмучае перш за ўсё на фоне іншай, бо паралельна Генеральная асамблея ААН прагаласавала за рэзалюцыю аб адмене санкцый ЗША супраць Кубы. Канешне, Генасамблея прымае такія рэзалюцыі ўжо 22 гады, і ўсё беспаспяхова, але сам факт… Беларусь апынулася ў вачах сусветнай супольнасці горшая за Кубу. А нашы міліцыянты, у форме і без, яшчэ і пагаршаюць гэты імідж адвольнымі затрыманнямі.

А між тым, кантроль за грамадзянамі яшчэ і ўзмоцніцца! Беларускія ўлады дазволілі ахоўнікам метрапалітэна ў Мінску праводзіць асабісты дагляд пасажыраў, іх рэчаў і дакументаў. Адпаведная норма закладзеная ва ўказе Аляксандра Лукашэнкі, які ўжо ўступіў у дзеянне.

Акрамя таго, гэты ж дакумент афіцыйна дазволіў ахоўнікам ваенізаванай аховы насіць спецыфічную асабістую зброю — электрашокер і балончык са слёзацёчным газам.

Застаецца толькі здагадвацца, каму наступнаму нададуць права сачыць за грамадзянамі і затрымліваць іх? Можа быць, прадавачкам крамаў? Альбо цырульнікам і веласіпедыстам? Чаму не? Чым яны адрозніваюцца ад аховы метрапалітэна альбо «міліцыі ў цывільным»?

> Беларусь апынулася ў вачах сусветнай супольнасці горшая за Кубу. А нашы міліцыянты, у форме і без, яшчэ і пагаршаюць гэты негатыўны імідж адвольнымі затрыманнямі

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### МІКАЛАЙ ЛАДУЦЬКА



Старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька асвойвае новую прафесію — экскурсавода. Пасля завяршэння моладзевага форуму, на якім выступіў Лукашэнка, Ладуцька прадэманстраваў чальцам БРСМ новую рэзідэнцыю кіраўніка дзяржавы.

Ладуцька распавёў пра асаблівасці афармлення інтэр'еру рэзідэнцыі кіраўніка. Госці таксама наведалі Алею ганаровых гасцей, закладзеную кіраўнікамі краін СНД падчас праведзенага нядаўна ў Мінску Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД.

Перад гэтым, выступаючы на форуме, Лукашэнка заявіў, што беларусы павінны ганарыцца Палацам незалежнасці, і паабяцаў зрабіць адкрытым доступ для людзей у гэты будынак. «Побач з вамі сімвал нашай дзяржаўнасці. Многія спрачаліся: трэба, не трэба. Колькі гэта каштавала? Палац незалежнасці — не закрытая ўстанова, ён пабудаваны для вас, вы можаце на яго разлічваць», — сказаў Лукашэнка, звяртаючыся да моладзі, адзначыўшы, што ў Палацы незалежнасці магчыма, напрыклад, правядзенне такіх мерапрыемстваў, як прыём у піянеры, у БРСМ.

Зрэшты, каму, як не Ладуцьку, паказваць новую рэзідэнцыю? Як паведамляюць некаторыя крыніцы, палова яе кошту ўзята з мінскага гарадскога бюджэту.

### СЯРГЕЙ ДАНКВЕРТ



Кіраўнік Рассельгаснагляду паквапіўся на самае святое — на беларускую бульбу. Мабыць, яму не даюць спакою лаўры галоўнага санітарнага ўрача Расіі Генадзя Анішчанкі.

Спецыялісты Рассельгаснагляду сумесна з прадстаўніком «Усерасійскага цэнтра каранціну раслін» правялі фітасанітарнае абследаванне адкрытай аптоварознічнай пляцоўкі на тэрыторыі раёна «Паўночны» ў Маскве. У чатырох партыях харчовай бульбы агульнай вагой 77 тон, якая паступіла з Беларусі, выяўлены каранцінны шкодны арганізм, паведамляе прэс-служба Рассельгаснагляду.

Выяўлены ў беларускай бульбе каранцінны шкодны арганізм — залацістая бульбяная нематода — прыводзіць да ўстойлівага заражэння глебы. Гэта выключае магчымасць вырошчвання на дадзеным участку раслін сямейства пасленовых на працягу не менш як 7 гадоў.

Заражаная прадукцыя суправаджалася фітасанітарнымі сертыфікатамі, выдадзенымі Галоўнай дзяржаўнай інспекцыяй па насенняводству, каранціну і ахове раслін Беларусі.

У сувязі з сістэматычнымі праблемамі пры пастаўках на тэрыторыю Расіі падкаранціннай прадукцыі з Беларусі, Рассельгаснагляд звярнуўся ў Галоўную дзяржаўную інспекцыю па насенняводству, каранціну і ахове раслін Беларусі з просьбай правесці ў кароткі тэрмін кансультацыі для пошуку шляхоў вырашэння праблем.

Дзіўныя прэтэнзіі ў Рассельгаснагляду. Мы прадаем масквічам бульбу, каб яны яе елі, а не вырошчвалі. Ды і вырасціць у Маскве бульбу праблематычна. Там, хутчэй, таджыкі вырастуць, чым беларускія карняплоды.

### КАЦЯРЫНА ШКУРАТАВА



Беларуская цяжкаатлетка Кацярына Шкуратава (вагавая катэгорыя звыш 75 кілаграмаў) заваявала бронзавы медаль у суме двухбор'я на першынстве планеты па цяжкай атлетыцы, якое праходзіла ў польскім Уроцлаве.

Па суме двух практыкаванняў Шкуратава паказала вынік 291 кг (130 у рыўку + 161 у штуршку). Пры гэтым пасля першай дысцыпліны, рыўка, беларуска ішла чацвёртай з адставаннем у 1 кілаграм ад трэцяга месца. Аднак у штуршку здолела апярэдзіць саперніцу з Тайланда на 1 кілаграм, і па суме двух практыкаванняў атрымала бронзу за кошт больш нізкага ўласнай вагі. Беларуска была лягчэй канкурэнткі на 7,5 кг (117,56 кг супраць 125,12 кг у тайландскай спартсменкі).

Золата заваявала расіянка Таццяна Кашырына — 332 кілаграмы (142 + 190). Яна стала двухразовай чэмпіёнкай свету, усталяваўшы адначасна рэкорд свету ў штуршку (190 кг). Срэбра ў алімпійскай чэмпіёнкі кітаянкі Лулу Чжу — 328 кг (146 + 182).

Нагадаем, што першы медаль зборнай Беларусі ў двухбор'і на ЧС–2013 ва Уроцлаве заваявала Дзіна Сазанавец (да 69 кг), якая стала бронзавым прызёрам 24 кастрычніка.

ПАРАЛЕЛІ

# СЕРБІЯ ПРАЗ 13 ГАДОЎ:

Аляксей КАРОЛЬ



Фота аўтара

Будынак у цэнтры Бялграда, у які трапіла бомба падчас натаўскіх бамбардзіровак у 1999 годзе. Ці то не паспелі аднавіць, ці то пакінулі як перасцярогу на будучыню. У бамбардзіроўках загінула каля 2000 чалавек

**«Мілошавіч сышоў, Мілошавіч застаўся». Менавіта гэтае меркаванне я пачуў ад маіх сербскіх суразмоўцаў — калег-журналістаў, навукоўцаў, экспертаў, актывістаў грамадскіх арганізацый падчас нашых працяглых сустрэч і размоў у Бялградзе.**

І гэта праз 13 гадоў пасля таго, як праз выбары і масавы вулічны пратэс у Сербіі быў зрынуты рэжым Слабадана Мілошавіча, якога ўжо ў той час на пару з яго беларускім калегам Аляксандрам Лукашэнкам называлі апошнімі дыктатарамі Еўропы.

## Кропка адліку

Крах рэжыму Мілошавіча дадаў надзей беларускім дэмакратам. Тым больш, што ў 2001 годзе прэзідэнцкія выбары меліся адбыцца ў Беларусі.

Узгадваю словы Генадзя Карпенкі ў сакавіку 1999-га: «Гэтыя выбары — наш апошні шанец, рэжым яшчэ не набыў непрабіўной моцы». У красавіку Генадзь Дзмітрыевіч, вакол якога ў якасці адзінага кандыдата на прэзідэнты магла аб'яднацца ўся дэмакратычная апазіцыя, нечакана памёр пры нявысветленых абставінах.

Абодва рэжымы — Мілошавіча і Лукашэнкі — мелі шмат падабенства, аб чым напісаў сваё грунтоўнае доктарскае даследаванне беларускі палітолаг Віталь Сіліцкі яшчэ ў 2003 годзе. Але яго кніга «Адкладзеная свабода. Посткамуністычны аўтарытарызм у Сербіі і Беларусі» была выдадзена толькі ў 2012 годзе, на вялікі сум, ужо пасля заўчаснай смерці выбітнага навукоўца.

Падаецца, што на гэтым пераможным рубяжы — змене рэжыму Мілошавіча, беларускія дэмакраты ў сваім асэнсаванні сербскага вопыту і спыніліся. Што там адбылося далей, сталася ўжо як бы не актуальным для нас, дзе аўтарытарны рэжым Лукашэнкі перажыў рэжым Мілошавіча ўжо на 13 гадоў.

Але ж веданне магчымых варыянтаў развіцця «пасля дыктатуры» дае грунт для разліку сваёй стратэгіі і тактыкі «пад дыктатурай». Хаця б для таго, каб не заблытацца самім у хлусьлівых абяцанках, не апусціцца ў балота ўзаемных абраз і сварак. І ўрэшце аб'яднацца і прапанаваць людзям рэалістычную, адпавядаючую іх настроям праграму перамен.

Я ехаў у Сербію, узброены досведам Віталя Сіліцкага, але ў дакладна вызначаных ім храналагічных рамках — станаўлення і краху рэжыму Мілошавіча.

Каб даведацца, што адбылося за 13 год пасля таго, як адгрымелі фанфары перамогі. Які ён, сербскі вопыт пераходу ад аўтарытарызму да дэмакратыі? Што спраўдзілася, а што не збылося, што рэалізавана з абяцанняў дэмакратычных трыўмфатараў, а што не? І чаму?



http://slobodan-memoria.narod.ru

Аляксандр Лукашэнка і Слабадан Мілошавіч

## Падобныя розныя

Памятаю, як свяціліся натхненнем вочы сербскіх дэмакратаў, калі яны падчас сустрэч з беларускімі дэмакратамі апавядалі пра свой досвед мірнай рэвалюцыі, з якім аптымізмам глядзелі ва ўласную перспектыву.

А тут, праз 13 гадоў: «Мілошавіч застаўся!» Халодны душ на рамантычныя ўяўленні з мінулага. Але і ўрокі на будучае. Будучае пасля Лукашэнкі.

Дэмакратычная палітычная сістэма мае дакладна вызначаныя як фармальныя рамкі — інстытуты і працэдуры, так і сутнасныя — сукупнасць асноўных дэмакратычных каштоўнасцей і стандартаў, правіл і інструментаў.

На жаль, у арсенале чалавецтва ёсць і практычны досвед, калі дэмакратычная форма не падмацавана дэмакратычным зместам. Імітацыйная дэмакратыя, якая прыкрывае аўтарытарную і таталітарную канструкцыю ўлады.



Праезд да будынку Дома ўрада. Справа, прыкладна на тым месцы, дзе стаіць другая машына, стрэлам са снайперскай вінтоўкі быў забіты ў 2003 годзе тагачасны прэм'ер Зоран Джынджыч

Рэжым Лукашэнкі — прыклад менавіта такой, на сто адсоткаў імітацыйнай, сістэмы, адбудаванай на аскепку былой савецкай сістэмы. Яшчэ і ўмацаванай аднаўленымі элементамі сталінскай сістэмы.

Рэжым Мілошавіча ў параўнанні з лукашэнкаўскім меў пэўныя адрозненні, якія і спрычыніліся да яго краху. У прыватнасці, Мілошавіч абапіраўся на сваю партыю, якая мела абсалютна пануючыя пазіцыі ва ўсіх структурах сістэмы, але ж самім фактам сваёй прысутнасці дапускала і дзейнасць апазіцыйных партый.

Рэжым не здолеў адфільтраваць склад мясцовых органаў улады, там былі прадстаўнікі апазіцыі, якія ўвайшлі і ў выбарчыя камісіі. Сістэма кантролю за выбарамі і, галоўнае, механізм фальсіфікацыі вынікаў галасавання Мілошавіч яшчэ не паспеў давесці да таталітарнай кандыцыі. Гэтак жа, як і механізм кантролю над СМІ. Пэўны люфт для манеўра мелі і розныя групоўкі ўнутры сербскай уладнай эліты.



Святлана Лукіч

Характэрна, што нават сам факт звяржэння рэжыму Мілошавіча сёння многімі ў Сербіі ацэньваецца па іншаму. Ужо не як дэмакратычная рэвалюцыя, а «ці то рэвалюцыя, ці то наменклатурны пераварот, а хутчэй за ўсё і тое, і тое разам — і рэвалюцыя і путч», як афарыстычна выказалася Святлана Лукіч, журналіст, стваральніца і рэдактар уплывовага незалежнага радыё і сайта «Песчанік». Ацэнка прафесара Бялградскага ўніверсітэту Дубраўкі Стаянавіч была наогул адназначнай: дзяржаўны пераварот, рэалізаваны арміяй і паліцыяй.

На погляд маіх суразмоўцаў, пад ціскам жорсткіх палітычных і эканамічных санкцый, пасля бамбардзіроўкі Бялграда рэжым Мілошавіча быў ужо на апошнім здыханні і мог выратавацца толькі праз увядзенне жорсткай дыктатуры. Але на гэта быў ужо не здольны. Градус незадавальнення ў грамадстве рэзка ішоў уверх. Пасля бамбёжак рознакаляровыя палітычныя сілы вельмі хутка аб'ядналіся, але не на ідэалах, а супраць Мілошавіча. Сышліся на адзіным кандыдаце на прэзідэнцкія выбары — Ваіславе Каштуніцы, які спавядаў тую ж ідэалогію, што і Мілошавіч, толькі ў мяккім варыянце, без ідэі вайны. Як адзначыла Святлана Лукіч, «гэта быў вялікі кампраміс, магчыма, нават заўчасны, магчыма, 5 кастрычніка 2000 года зарана прыйшло».

Тым не менш віна Мілошавіча пад сумненне не ставіцца. «Год таму, — іранізавала дырэктар і галоўны рэдактар незалежнага штотыднёвіка «Novi Magazin» Надзея Гачэ, — я сказала сабе, што не буду ніколі ўзгадваць імя Слабадана Мілошавіча. Па той прычыне, што упэўнена: большая частка віны за тое, што адбылося з Югаславіяй і Сербіяй, ляжыць на ім. Але за 13 гадоў, што



Надзея Гачэ

прайшлі пасля яго, а гэта вялікі перыяд, можна было і трэба было зрабіць усё па-іншаму. Людзі, што ва ўладзе пасля Мілошавіча, ускладаюць усю віну на яго, каб зняць віну з сябе, за тое, што нічога не робяць».

## Дэмакратычная рамка

Тут, на мой погляд, варта ўзгадаць пра агульную рысу паводзін кіроўнай групоўкі, у тым ліку ў сілавых структурах, аўтарытарных рэжымаў. Гэтыя паводзіны заўсёды вызначаюцца не прынцыпамі і мараллю, а выключна інстынктам самазахавання — сваёй улады, прывілей і багацця.

Падчас масавых сацыяльных узрушэнняў яны арыентуюцца на магчымага пераможцу і, адпаведна, схіляюцца ў той ці іншы бок. І, адпаведна ж, ці жорстка падаўляюць паўстанне, ці абдымаюцца з паўстанцамі. Бывае, памыляюцца ў выбары, бывае, раскалваюцца, што абвастрае канфлікт, аж да ўзброенага сутыкнення, да грамадзянскай вайны.

Узгадваю эпізод са спробай імпічменту, які арганізавала частка дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання новаабранаму прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку. У былой рэзідэнцыі ЦК КПБ, што месцілася ў завулку Фрунзэ, да ночы ішлі перамовы паміж

# ПАЛІТЫЧНЫ ЛАНДШАФТ

бакамі, ініцыяванымі тройкай вышэйшага расійскага кіраўніцтва на чале з прэм'ерам Віктарам Чарнамырдзіным, што тэрмінова прыляцела ў Мінск дзеля ўратавання Лукашэнкі.

Не спалі, чакалі вынікаў той нарады дэпутаты і міністры, кабінеты якіх тады месціліся ў Доме ўраду, толькі ў розных яго крылах. Недзе бліжэй да апоўначы ў кабінеце аднаго з дэпутатаў, як бы дэмакрата, чый подпіс значыўся пад заявай аб імпічменце, прагучаў тэлефонны званок ад сябра-міністра: «Прэзідэнт перамог, збірай манаткі». У Вярхоўным Савеце яго больш не бачылі. Пабачылі ўжо ў крэсле штучна сфарміраванай прэзідэнтам Палаты прадстаўнікоў. Было б наадварот — у адстаўку б на знак пратэсту збеглі б многія міністры, з разлікам зноўку вярнуцца ў свае кабінеты па мандату новай улады.

Беларуская дэмакратычная апазіцыя мірна прайграла свой шанец. Сербская апазіцыя мірна выйграла. Што ўжо можна лічыць дасягненнем, вартым быць прыпісаным у заслугу ўсім тым палітычным сілам, што спрычыніліся да вырашэння крызісу 2000 года. У каго б яны ні пераўвасобіліся, і якія б ацэнкі ні гучалі наконт іх дзеянняў пасля.

## Палітычны водападзел

Менавіта падзенне рэжыму Мілошавіча абазначае мяжу паміж дзвюма палітычнымі эпохамі ў найноўшай гісторыі Сербіі. Пры ўсім іх падабенстве. Фармальныя рамкі палітычнай сістэмы, што сфарміравалася за 13 год пасля краху персаналісцкага рэжыму Мілошавіча, нават пры ўсёй прыдзірлівасці, нельга вызначыць інакш як рамкі дэмакратычнай сістэмы. І яны не бутафорскія.

У наяўнасці ўсе галіны ўлады — парламент, прэзідэнт і ўрад, суд. У пэўнай ступені рэальным, а не на паперы толькі, падзелам функцый і адказнасці. Ёсць рэальная шматпартыйная сістэма — 18 партый, з якіх 7 прадстаўлены ў парламенце. Ёсць галоўнае — выбары з рэальным падлікам галасоў і зменай улады. Прэзідэнт абіраецца на ўсеагульных выбарах. Старшыня ўраду — парламентам, з кандыдатур прапанаваных прэзідэнтам.

Па выніках апошніх парламенцкіх выбараў, якія прайшлі ў маі мінулага года, у парламенце адбылася змена кіруючай кааліцыі. Галасы размеркаваліся наступным чынам:

| Выбарчы спіс | Колькасць мандатаў |
|---|---|
| Сербская прагрэсіўная партыя | 73 |
| Дэмакратычная партыя | 67 |
| Блок партый: Сацыялістычная партыя Сербіі — Партыя пенсіянераў — «Адзіная Сербія» | 44 |
| Дэмакратычная партыя Сербіі (лідар Васлаў Каштуніца) | 21 |
| Ліберальна-дэмакратычная партыя | 20 |
| Аб'яднаныя рэгіёны Сербіі | 16 |
| Партыі нацыянальных меншасцяў | 10 |

Узначальвае кіруючую кааліцыю Сербская прагрэсіўная партыя, лідарам якой з'яўляецца прэзідэнт Таміслаў Нікаліч. Гэта партыя вырасла з нацыяналістычнай Сербскай радыкальнай партыі Васлава Шэшаля, паплечніка Слабадана Мілошавіча. Лідар Дэмакратычнай партыі, якая саступіла кіруючыя пазіцыі — Барыс Тадзіч, папярэдні прэзідэнт Сербіі.

Крытыкі сённяшняй улады, палітыкаў і партый фіксуюць і пэўныя пазітыўныя вынікі 13 апошніх гадоў развіцця Сербіі. Гэта — мір і спакой, адсутнасць вайны і масавых беспарадкаў; выбары, магчымасць кожнаму гаварыць, што лічыць неабходным; адсутнасць палітычных рэпрэсій і пагрозы фізічнай расправы; наяўнасць некаторых дэмакратычных інстытутаў; арыентацыя на ўступленне ў Еўрасаюз. Аднак пасля кожнага з гэтага пунктаў гучала «але»…

## Прывіды з мінулага

Дык дзе ж на палітычным полі Сербіі месца прывіду Мілошавіча? І хто на новенькага? Першай схованкай для зданяў з мінулага стаўся кадравы корпус Мілошавіча, люстрацыя якога новыя ўлады не правялі. Зараз гэтыя кадры, ва ўсялякім выпадку з вышэйшых звенняў, амаль усе сышлі, але новыя палітыкі заразіліся аўтарытарным вірусам і абярнулі ўладныя рычагі не на карысць краіне і людзям, а сабе. Адсюль размах карупцыі.

Урэшце — стан сербскага грамадства, якое з большага засталося патрыярхальным і ў традыцыі якога, па меркаванні Сешкі Станойлавіч, кіраўніка Хельсінскага камітэта па правах чалавека ў Сербіі, прысутнічае згода на аўтарытарны рэжым. Чацвёртая — ідэалогія, якая засталася з 1990-х, больш за тое, увайшла ў Канстытуцыю, у школьную праграму. Гэта ўяўленні аб страчанай Вялікай Сербіі. Сербіі як пастаяннай ахвяры, аб несправядлівай страце Косава — святой зямлі, якая палягае вяртанню, калі здарыцца зручны момант.

Па меркаванні аналітыка Дзяна Іліча, «не Мілошавіч з'яўляецца праблемай сербскага грамадства. Гэта сербскае грамадства стварыла Мілошавіча. І калі яго не стала, праблемы не вырашыліся, і кожны з новых прэзідэнтаў у пэўнай ступені паўтараў Мілошавіча». Няма



Дзян Іліч

прынцыповай розніцы тады, калі пры ўладзе былі Тадзіч і яго Дэмакратычная партыя і цяпер, калі на версе Сербская прагрэсіўная партыя, а яе лідар Нікаліч з'яўляецца кіраўніком дзяржавы».

На сёння ў Сербіі самай моцнай і ўплывовай фігурай з'яўляецца Аляксандр Вучыч, намеснік прэм'ера. І менавіта ад яго, на погляд многіх аналітыкаў, сыходзіць небяспека ўзмацнення аўтарытарнай тэндэнцыі. У доказ




Жыццё працягваецца. Рэстаран, заснаваны яшчэ у 19 ст. Папулярны ў творчых колах. Ля ўвахода фота і аўтографы знакамітых наведвальнікаў. Адносна танны. Добры абед з півам каштуе вакол 10 еўра

— адсутнасць любой крытыкі на яго адрас, кампанія прапаганды на яго карысць, найперш праз распачатую ім кампанію барацьбы з карупцыяй.

На маё здзіўленне — чаму ад намесніка, нават не ад прэм'ера, — дакладнага адказу я не атрымаў. Акрамя, што прэм'еру проста патрэбна была пасада, каб жыць для сябе. Глыбей — гэта ёсць персаналізаваны вынік закрытай ад публічнасці барацьбы ўнутры элітарных палітычных груповак. На погляд іншых, Вучыч — проста той, хто ўзяўся за справу, каму баліць за краіну.

Пры ўсіх зменах улады, адзначалі эксперты, аднолькава цяжкай застаецца эканамічная сітуацыя. Вялікае беспрацоўе, асабліва сярод моладзі. Сярэдні заробак у Сербіі — каля 500 долараў. Масавы ад'езд моладзі і кваліфікаваных кадраў за мяжу. Моцны рост сацыяльнай незадаволенасці насельніцтва.

«Замест таго, каб змяніць сістэму сацыяльнай абароны, — кажа Дзян Іліч, — улады пачынаюць саджаць у турму тых людзей, якія разбагацелі раней. І толькі дзеля таго, каб вызваліць месца для кагосьці са сваіх, сваёй партыі. Замест паляпшэння жыцця, справядлівага размеркавання багацця — сімвалічная эканамічная сатысфакцыя. Дакладней, бачнасць гэтай сатысфакцыі».

У тым ліку і па той прычыне, як адзначалі ўсе мае суразмоўцы, што абвінавачванні выносяцца і публікуюцца ў падкантрольных уладзе СМІ да суда. Зразумела, што барацьба з карупцыяй вітаецца насельніцтвам, і яе ўскосным вынікам з'яўляецца падвышэнне рэйтынгу палітыкаў і партый, якія яе праводзяць.

Але негатыўныя наступствы такой формы барацьбы перакрываюць яе сумнеўны пазітыў. Падрываецца прынцып вяршэнства права, незалежнасці судовай сістэмы. Менавіта адсутнасць паслядоўнай судовай рэформы ставіцца найперш у віну ўладам. Бо знікае ідэя агульнай узаемадапамогі, салідарнасці, клопату аб старых і слабых.

## Парадокс шматпартыйнасці

Галоўнае, на погляд сербскіх крытыкаў рэжыму, палягае не ў тым толькі, каб змяніць асобу і нават удзельнікаў працэсу, што ёсць важным выхадным пунктам дэмакратычных перамен, але змяніць структуру грамадства, змяніць сістэму. Калі гэтага не зрабіць вельмі хутка, атрымаецца тое ж самае.

Сербскім парадоксам можна лічыць той факт, што шматпартыйная сістэма забуксавала не на форме і працэдуры змены ўлады, а на каштоўнасцях, дзеля сцвярджэння якіх патрэбныя рэформы.

Структура ўлады, дэмакратычная па форме, аформілася такім чынам, што партыі як бы страцілі адчуванне свайго лёсавызначальнага палітычнага прызначэння — архітэктараў і будаўнікоў рэальнай палітыкі ў інтарэсах усяго грамадства — з вяршэнствам права, наяўнасцю ўсяго комплексу свабодаў, высокім сацыяльным дабрабытам.

З рэек каштоўнасцей партыі саслізнулі на рэйкі змагання за ўладу як самамэту, за якой з непазбежнасцю матэрыялізаваўся монстр асабістага інтарэсу.

«Пры Мілошавічы, — разважала праваабаронца Наталля Братулевіч, — ён і партыя яго і жонкі фарміравалі ўладу. Пасля персанальная ўлада Мілошавіча пераўтварылася ў партакратычную. 18 партый падзялілі ўладу. Прычым далёка не ўсе яны былі дэмакратычнымі. Іх аб'ядноўвала адна мэта — прыбраць Мілошавіча».

Тым не менш, на скрыжаванні праблем пасля Мілошавіча ў эпіцэнтры барацьбы за дэмакратычныя рэформы аказаліся менавіта партыі. Гэта ёсць ці не найважнейшы аргумент за тое, што ў Сербіі, як бы там ні было, усталявалася дэмакратычная сістэма. Далёкая ад узору, але іншага інструментарыя няма.

Не выпадкова, што, нягледзячы на расчараванні ў партыях і палітыках, свае спадзяванні на далейшыя дэмакратычныя рэформы крытыкі цяперашняга рэжыму звязваюць менавіта з партыямі. Прычым з тымі ж, якія выклікалі расчараванне, канкрэтна — з Дэмакратычнай партыяй і Ліберальна-дэмакратычнай партыяй.

Паказальна таксама, што менавіта працэдура галасавання была выкарыстана апазіцыйнай часткай грамадства для аказання ўплыву на гэтыя партыі, каб развярнуць іх да каштоўнасцей, прымусіць да правядзення сапраўдных і паслядоўных дэмакратычных рэформ, паскарэння тэмпу рэформ.

У прыватнасці, на апошніх выбарах частка грамадства, што раней галасавала за гэтыя партыі, апусціла ў выбарчыя скрыні пустыя бюлетэні. Менавіта іх галасоў, прыкладна, 4–5 працэнтаў, і не хапіла Дэмакратычнай і Ліберальна-дэмакратычнай партыям для перамогі. За што яны цяпер і абвінавачваюць грамадства ў сваёй паразе. «Мы ж адказваем ім, — тлумачыць гэту тактыку Дзян Іліч, — што вы ж бачыце: без нас, без нашай падтрымкі вы не зможаце выйграць, таму мяняйцеся, барыцеся за справу дзеля агульнага дабра. Будзем галасаваць за вас, калі вы памяняецеся».

У выніку не такой ужо змрочнай аказалася формула: «Мілошавіч застаўся» пры больш падрабязным аналізе. Гэта, хутчэй, эмацыйная форма расчаравання за нязддзейсненыя чаканні, незадавальненне палітыкамі, чые памылкі і эгацэнтрызм абярнуліся страчаным часам, нерэалізаванымі магчымасцямі.

Асабліва на фоне сітуацыі ў Беларусі. «У вас так, як у нас было пры Мілошавічу, — сумна канстатавалі мае сербскія суразмоўцы. — З вашага пункту погляду, той узровень, дзе мы знаходзімся, — гэта добра. З нашага — можна на шмат лепш». Сербскія праблемы, як і шэрагу іншых посттаталітарных дзяржаў, што выйшлі на шлях дэмакратыі, — гэта праблемы нашага заўтрашняга дня.

На сённяшні дзень сербская інтэлектуальная апазіцыя ў якасці галоўнай вызначае мэту давесці дэмакратычны змест паслямілошавічскай палітычнай канструкцыі да адпаведнасці яго дэмакратычным рамкам. Паскорыць тэмп рэформ. Змяніць склад палітычных гульцоў і саму сістэму. Адкарэкціраваць ідэалогію існуючай мадэлі. Правесці рэформы судовай сісэмы і сістэмы адукацыі.

ПАЛІТЭКАНОМІКА

# ПАДМЕНА ПАНЯЦЦЯЎ

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Здаецца, шмат якія праблемы Беларусі абумоўленыя тым, што ўлада думае адно, гаворыць другое, а робіць трэцяе. У традыцыйным стылі «кепскі народ» на сустрэчы з маладзёнамі Аляксандр Рыгоравіч раптам пачаў казаць пра лянівых беларусаў.**

Выступаючы на форуме «Традыцыі. Моладзь. Будучыня», наш правадыр заявіў: «У нас ёсць тысячы, дзясяткі, сотні тысяч выдатных, сумленных, самаадданых работнікаў. Іх пераважная большасць. Але нямала і гультаёў, і п'яніц, і разгільдзяяў. Можна са мной не згаджацца і спрачацца, але ёсць аб'ектыўныя факты. Наша прадукцыйнасць працы хранічна адстае не толькі ад еўрапейскіх краін і ЗША, але і ад многіх азіяцкіх дзяржаў», — сказаў Лукашэнка.

Літаральна ў маі гэтага года Лукашэнку давялося заняцца пытаннем разгрузкі складоў, бо колькасць тавару на іх перавысіла ўсе разумныя межы. Хіба такое магчыма было б пры тым, што ў нас «нізкая прадукцыйнасць працы». Некаторыя эканамісты, напрыклад, Леанід Заіка, нават казалі пра новы беларускі крызіс — крызіс перавытворчасці.

«Тое, што зараз адбываецца ў Беларусі, згодна з усімі асноўнымі эканамічнымі тэарэтыкамі, ад Маркса да Кейнса, — класічныя паказчыкі эканамічнага крызісу, а канкрэтна крызісу адноснай перавытворчасці. У 2013 годзе мы атрымалі рэзкае павелічэнне таварных запасаў, памяншэнне збыту прадукцыі на знешніх рынках на 20%, неадэкватны стан унутранага рынку. Пры гэтым прадпрыемствы працягваюць вырабляць прадукцыю, якую ніхто не купляе. А значыць, каб прадаць прадукцыю, трэба зніжаць на яе кошты, і гэта зніжэнне ўжо заўважна на знешніх рынках. Гэта і ёсць класічны крызіс адноснай перавытворчасці», — казаў Заіка ў маі гэтага года.

Прапанова ж Лукашэнкі разгрузіць склады і прызначыць адказныя за гэта групы таварышаў, ад супрацоўнікаў міліцыі да міністраў, ні да чаго не прывяла. Таварныя запасы павялічыліся да 75% ад месячнага выпуску, а былі на ўзроўні 40%. «Мы выпускаем прадукцыю, якая нікому не патрэбна. У гэтым годзе мы прадалі за мяжу тавараў на 20% менш. Хлопцы, вы выраблялі прадукцыю, якая неканкурэнтная, дарагая, высокія выдаткі. Адны дурні выраблялі тавары, цяпер іншыя дурні думаюць, куды іх падзець», — канстатаваў Заіка.

Выйсце з крызісу перавытворчасці такое ж класічнае, як і сам крызіс. Трэба перастаць вырабляць тыя тавары, якія не карыстаюцца попытам, і пераводзіць прадпрыемствы на новыя рэйкі, выпуск новай прадукцыі, якая попытам карыстаецца. Але замест таго, каб пачаць выпускаць танныя легкавікі і смартфоны, беларускі ўрад запускае праграму мадэрнізацыі прадпрыемстваў, якія па-ранейшаму будуць ствараць старую, нікому не патрэбную прадукцыю.

Для гэтага патрэбныя, перш за ўсё, грошы. Але чаму б тады не дапусціць на беларускі рынак інвестараў? Чаму мы кіруемся формулай «хай кепскае, затое сваё»?

Таму што замежны інвестар, праводзячы перапрафіляванне прадпрыемстваў, непазбежна выкіне з працы тых самых гультаёў, п'яніц і разгільдзяеў. А гэта азначае значнае павелічэнне беспрацоўя, пагаршэнне статыстыкі, павелічэнне выдаткаў на службы занятасці ды дапамогу па гэтым беспрацоўі і як факт — канец «сацыяльна арыентаванай» дзяржавы (не блытаць дзяржаву з краінай!).

Дадатковы момант у «прадукцыйнасці працы» і крызісу перавытворчасці ў тым, што мы не можам нават атрымаць грошы за ўжо, нібыта, прададзеную прадукцыю. Пра гэта і казаў Лукашэнка 9 кастрычніка на нарадзе па сацыяльна-эканамічным становішчы краіны: «Галоўнае — гэта грошы ў краіну, а не тавар за мяжу выкінулі і паставілі там недзе пад плотам. Куды хочаце вязіце, але грошы павінны ў краіну паступіць».

Знешняя дэбіторская запазычанасць беларускіх прадпрыемстваў па стане на 1 верасня 2013 года, згодна дадзеным Белстата, дасягнула 50,8 трыльёна рублёў. Гэта каля 5 мільярдаў долараў. І ў той час, калі нам не сплочваюць такія грошы, мы вядзем перамовы аб чарговых крэдытах альбо з МВФ, альбо з Антыкрызісным фондам ЕўрАзЭс. Падаецца, варта было б адправіць нашых гультаёў і алкаголікаў з паяльнікамі і прасамі да тых, хто не хоча разлічвацца па рахунках — і разгільдзяі былі б пры справе, і грошы б у краіну паступілі.

Тут, канешне, ёсць небяспека ў тым, што, калі мы будзем выбіваць запазычанасці «актыўнымі сродкамі», то больш наш неліквід ніхто не купіць. Але яго і так няшмат хто купляе.

«Прадукцыйнасць працы» выклікае і яшчэ адну праблему, на якую наракалі эканамісты. Праблема палягае ў тым, што памер заробку беларусаў ніяк ад гэтай прадукцыйнасці не залежыць. Заробак у нас — паказчык не тое што сацыяльны, а валюнтарысцкі. Прэзідэнт сказаў: 500 долараў у эквіваленце — кроў з носу, зрабі яго, нават калі ты выпускаеш лапці замест красовак. Нават Мінэканомікі прызнала, што ў студзені-жніўні рост заробкаў апераджаў тую ж прадукцыйнасць працы на 17,3%. А ўсе мы ведаем, да чаго прыводзіць у эканоміцы наяўнасць незаробленых грошай. Найперш, гэта інфляцыя, ад якой людзі хаваюць свае зберажэнні ў валюце. Што, адпаведна, выклікае той самы попыт на валюту, які правакуе дэвальвацыю.

Але ж зніжэнне заробку ў адпаведнасці з прадукцыйнасцю працы ў так званай «сацыяльнай дзяржаве» амаль немагчымае. За невыкананне патрабаванняў прэзідэнта не адзін чыноўнік не тое што з працы зляцеў — у турму патрапіў. Хай гэтае невыкананне было хоць тройчы, хоць пяцікратна выкліканае патрабаваннямі эканомікі. Прасцей выпусціць неліквідную прадукцыю і панабраць крэдытаў на выплату заробку, у спадзяваннях, што гэтыя крэдыты з'ядуць інфляцыя з дэвальвацыяй, чым сумленна працаваць і плаціць рэальна столькі, колькі было не створана (!), і нават не прададзена (!!!) прадукцыі, а столькі, колькі за яе атрымана грошай.

На выхадзе Аляксандру Рыгоравічу не трэба было б наракаць на нізкую прадукцыйнасць працы. Яму б трэба было ўвогуле дзякаваць гультаям, п'яніцам і разгільдзяям за тое, што не стварылі яшчэ больш той прадукцыі, якую мы не можам прадаць. А калі ўжо і прадалі, то за якую не можам атрымаць грошы. Канешне, згаданым Лукашэнкам катэгорыям грамадзян таксама трэба штосьці есці, але пра гэта клапоціцца «сацыяльная дзяржава».

Для той структуры гаспадаркі, якая маецца зараз у нас, гэтая прадукцыйнасць і так занадта вялікая. Праблема ў самой сістэме «сацыяльнай дзяржавы», якая, каб не дапусціць беспрацоўя, не дазваляе перапрафіляваць прадпрыемствы. Яны выпускаюць прадукцыю, якая ляжыць на складах, бо яе не купляюць, а калі «купляюць», то не разлічваюцца. А «сацыяльная дзяржава» ўсё роўна плаціць заробкі і дае грошы тым прадпрыемствам, якія робяць прадукцыю, якая не прадаецца, а калі прадаецца, дык… Ну, вы зразумелі, так?

ПРАГНОЗЫ

# ЗАРОБКІ БУДУЦЬ ПАДАЦЬ

Сяргей ПУЛЬША

**Беларускі ўрад імкліва пераглядае прагнозы на наступны год. Плануецца не толькі скарачэнне ВУП і павелічэнне інфляцыі, але і скарачэнне росту заробкаў — амаль катастрафічнае.**




Варта нагадаць, што ў 2012 годзе рэальныя наяўныя грашовыя даходы (за вылікам падаткаў, збораў і ўнёскаў, скарэктаваных на індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі) выраслі на 21,5%. Па выніках 2013 года, паводле ацэнак уладаў, рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва вырастуць на 17,6%. У будучым годзе першапачаткова і так было запланавана скарачэнне росту даходаў да 6%. Згодна з новым прагнозам, і гэтая лічба «парэзаная» ўдвая — рост даходаў складзе 3%.

Незадоўга да гэтага прадстаўнікі Міжнароднага валютнага фонду рэкамендавалі беларускім уладам знізіць тэмпы росту заробкаў. «Пагаршэнне плацежнага балансу выклікана ў тым ліку больш хуткім ростам заробкаў і павелічэннем мэтавага крэдытавання. Таму, каб вырашыць узніклую праблему, неабходна прымяняць комплексны падыход, які павінен нацэльвацца на жорсткае кіраванне ўнутраным попытам», — заявіў кіраўнік місіі МВФ у Беларусі Дэвід Хофман на прэс-канферэнцыі 28 кастрычніка.

Кіраўнік місіі фонду падкрэсліў, што адной з неабходных мер з'яўляецца абмежаванне даходаў насельніцтва. «У прыватнасці, на нашу думку, неабходна рэзка скараціць рост заработнай платы і мэтавага крэдытавання — двух галоўных фактараў пагаршэння дысбалансаў. Акрамя таго, неабходны дадатковыя меры па карэкціроўцы пагаршэння сальда дзяржаўнага бюджэту», — рэзюмаваў Дэвід Хофман.

Тое ж самае разумее і Аляксандр Лукашэнка. На фоне папярэджання эканамістаў, што заробкі растуць, апераджаючы вытворчасць працы, ён нават задумаўся пра тое, каб у беларусаў больш не з'яўлялася «лішняга рубля, з якім бягуць у абменнікі». Але ці будзе рэальна выкананы план урада?

Найперш, выклікае сумневы тое, што гэтая карэкціроўка прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця выкліканая жаданнем атрымаць чарговы крэдыт ад МВФ. Як вядома, паабяцаць МВФ можна ўсё, што заўгодна. Выконваць жа абяцанні афіцыйны Мінск патрэбным не лічыць. Колькі разоў ужо такое было, што абяцалі адно, а атрымлівалася іншае.

Эканаміст і намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Леў Марголін сумняваецца, што такія прагнозы будуць выкананыя. З аднаго боку, як эканаміста, такая сітуацыя яго б задаволіла. «Калі будзе рост ВУП вышэйшы, чым у 3%, абмежаванне па росце заробку, я б толькі вітаў. Гэта значыла б, што на свой заробак, нават «скарочаны», беларусы маглі б набыць больш тавараў і больш паслугаў», — кажа Марголін.

Але наўрад ці гэтая прапанова ўрада ў сённяшняй сітуацыі здолее ажыццявіцца. «На такое абмежаванне вельмі цісне сітуацыя на беларускім рынку працы. У той час, калі мільён беларусаў з'ехалі працаваць за мяжу, такі ад'езд вельмі цісне на працадаўцаў. Яны проста вымушаныя падымаць заробак, каб людзі ад іх не збягалі, напрыклад, на расійскія будоўлі. Знізіць заробак у такіх умовах вельмі цяжка, інакш прадпрыемствы проста застануцца без працоўнай сілы», — лічыць Марголін.

А як палітык, ён не верыць у зніжэнне заробкаў, бо 2014-ы год будзе годам перадвыбарчым. «Гэта яшчэ адзін фактар «супраць» скарачэння заробку. Істотна скараціць заробак перад выбарамі наўрад ці хто дазволіць», — адзначае Марголін.

Так што Марголін не верыць у тое, што заробак павысіцца толькі на 3%. На ягоную думку, ніхто гэты прагноз выконваць не збіраецца.

Адзінае, што на 3% можа павышацца рэальны даход, а не налічаны заробак. «У будучым годзе, калі не здарыцца рэзкага абвалу беларускага рубля, то будуць працягвацца гульні з курсам валют і плаўнае паслабленне нацыянальнай валюты. Тады, можа быць, заробак і будзе расці ў намінальнай вартасці, аднак беларускія грошы будуць таннець у параўнанні з доларам і еўра. То бок, пры росце заробку ў лічбах беларускага рубля ён будзе зніжацца ў доларавым эквіваленце. Фармальна заробак падрасце, а рэальна знізіцца», — прагназуе Марголін.

Сапраўды, павышэнне заробку на 3% пры плануемай інфляцыі амаль у пяць разоў большай (14,5%) робіць гэткае павышэнне не павышэннем, а зніжэннем заробку. І наўрад ці нехта пойдзе на гэта ў выбарчы год.

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 4 ЛІСТАПАДА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.13** «Зона Х». Крымінальная хроніка.
**07.20, 08.15, 09.10** Прагноз надвор’я.
**08.10** «Зона Х». Крымінальная хроніка.
**09.11** «У цэнтры ўвагі».
**10.05** Лірычная меладрама «Восеньскі марафон» (СССР).
**12.11** Прагноз надвор’я.
**12.13** «Дзень у вялікім горадзе».
**13.23** Клуб рэдактараў.
**14.13** «Вакол планеты».
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.26** Прагноз надвор’я.
**15.28** Журналісцкае расследаванне. Тэлестужка АТН.
**15.55** Заўтра - гэта мы!.
**16.27** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма пра турызм.
**16.53** Рамантычная камедыя «Вяселле па абмене» (Расія).
**18.40** Навіны рэгіёна.
**19.21** Прагноз надвор’я.
**19.23** Арэна.
**19.39** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** «Панарама». Інфармацыйны канал.
**21.45** Фантастычны серыял «Каўчэг» (Іспанія). 21-я серыя (з 27-мі).
**23.20** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**23.40** Навіны.
**23.56** Дзень спорту.
**00.07** Прагноз надвор’я.
**00.09** Дэтэктыўны трылер «Дамавік» (Расія).
**02.02** Гімн Рэспублікі Беларусь.

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Самы лепшы муж».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Фільм «Афіцэры».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** Прэм’ера. Святочны канцэрт.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: Прэм’ера. Ток-шоў «Пазіцыя».
**22.05** Прэм’ера. Фільм «Прыхільніца».
**00.05** «Усё ў імя кахання».
**01.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Брэст.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Такі лёс».
**12.30** «Джэймі: у пошуках смаку».
**13.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Брэсцкая вобласць.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг. Новы сезон.
**15.10** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Прэм’ера. «Вялікія таямніцы».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Жодзіна.
**20.30** Фільм «Ямакасі: самураі нашых дзён». Францыя, 2001г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.50** «Эліксір маладосці».

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.10** Навіны надвор’я.
**10.45** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**11.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.55** Прыгодніцкі дэтэктыў «Карчма на Пятніцкай» (СССР).
**14.45** Гістарычная драма «Бывай, мая каралева!» (Францыя - Іспанія).
**16.40** Беларуская часіна.
**17.55** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**19.00** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**23.05** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**00.00** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).

### 3 Беларусь

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Без эпітафіі». Аб трагічным лёсе пісьменніка і грамадскага дзеяча Зміцера Жылуновіча (Цішкі Гартнага).
**08.45** «Карані». Пра горад Нарва і пра беларусаў, якія там жывуць.
**09.15** «Пад крылом анёла». Дакументальны фільм пра вядомага беларускага мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, прафесара Уладзіміра Савіча.
**09.35** «Зорка эпохі». 4-я серыя.
**10.25** «Дыя@блог». Пра мову.
**10.55** «Дзяржаўная граніца». Фільм пяты «Год 41-ы».
**13.15** «Калейдаскоп».
**13.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці балерыны, народнай артысткі Беларусі Аляксандры Нікалаевай.
**13.45** «Майстры і чаляднікі». Народныя промыслы Беларусі. Вышывальшчыцы.
**14.15** «Альманскія балоты». Асаблівасці балот Палескай нізіны.
**14.45** «Приведем ко Творцу сотворенный Им Космос». Дакументальны фільм.
**15.15** «Гарантую жыццё». Мастацкі фільм.
**16.45** «Наперад у мінулае».
**17.10** «Росчырк часу». Віцебскі музей.
**17.30** «Без эпітафіі». Аб трагічным лёсе пісьменніка і грамадскага дзеяча Зміцера Жылуновіча (Цішкі Гартнага).
**18.05** «Калейдаскоп».
**18.15** «Дзяржаўная граніца». Фільм шосты «За парогам Перамогі».
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Пацалунак Сакрата». Фільм першы «Смяротны водар». 1-я і 2-я часткі.
**22.30** «Дыя@блог». Пра мову.
**22.55** «Зорка эпохі». 5-я серыя.
**23.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці балерыны, народнай артысткі Беларусі Аляксандры Нікалаевай.
**0.15 «Калейдаскоп».**

### НТВ

**06.30** «Таямнічая Расія».
**07.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**08.00, 10.00, 13.00, 19.00** Сёння.
**08.15** «І зноў добры дзень!».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.20** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.20** «Справа лекараў».
**15.05** «Справа густу».
**15.35, 19.20** Вострасюжэтны серыял «Шэф».
**22.55** Дэтэктыў «3 жыцця капітана Чарняева».
**00.35** «Авіятары».

### МИР

**05.00** Мастацкі фільм «Чароўны голас Джэльсаміна».
**07.10** Мультфільмы.
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.10** Мастацкі фільм «Волга-Волга».
**11.10** Тэлесерыял «Імперыя пад ударам».
**15.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**15.10** Тэлесерыял «Жураў».
**18.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**18.25** Тэлесерыял «Жураў».
**20.15** Тэлесерыял «Азазэль».
**23.10** Тэлесерыял «Імперыя пад ударам».
**03.00** Волга-Волга.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма). Погляд на Беларусь з Прагі.
**07.30** «Людзі старой веры», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**07.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.25** «Дом», серыял: 8 серыя.
**18.00** «Кароль-вінароб», серыял: 2 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пінгвінік Пік-Пок», мульсерыял.
**19.00** Навіны.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Дэвайс.
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.55** рэпартаж «Euronews».
**20.00** Навіны.
**20.30** Два на два (тэледыскусія ад Паўла Мажэйкі ды Дзмітрыя Гурневіча): Крысціна Вітушка і Аляксандра Дынько – пра выхаванне па-беларуску.
**21.00** Аб’ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Фільматэка майстроў: «Плошча Збаўцы», маст. фільм, 2010 г., Польшча.
**23.15** Невядомая Беларусь: «Па кім маўчыць звон?», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**23.40** Аб’ектыў.

## 5 ЛІСТАПАДА, АЎТОРАК

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.13** «Зона Х». Крымінальная хроніка.
**07.20, 08.15, 09.10** Прагноз надвор’я.
**08.10** «Зона Х». Крымінальная хроніка.
**09.11** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.05** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**10.59** Дак. цыкл «Будзь у тонусе».
**12.11** Прагноз надвор’я.
**12.13** «Дзень у вялікім горадзе».
**13.23** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.26** Прагноз надвор’я.
**15.28** Арэна.
**15.47** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Украіна-Расія). 1-я серыя.
**16.49** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.38** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**18.40** Навіны рэгіёна.
**19.21** Прагноз надвор’я.
**19.23** Сфера інтарэсаў.
**19.39** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**21.00** «Панарама».
**21.58** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**23.35** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**00.11** Дзень спорту.
**00.22** Прагноз надвор’я.
**00.24** Сфера інтарэсаў.
**00.41** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Украіна-Расія). 1-я серыя.

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Самы лепшы муж».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Наша Белараша».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** Прэм’ера. «Сын бацькі народаў». Шматсерыйны фільм.
**23.25** Фільм «Какаін».
**01.35** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Жодзіна.
**09.15** «Вялікія таямніцы».
**10.20** «Жыць будзеце».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: у пошуках смаку».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Жодзіна.
**14.05** Фільм «Падарожжа капітана Фракаса». Францыя - Італія, 1990г.
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Барысаў.
**20.30** Фільм «Цацка». Францыя, 1976г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.25** «Тэрыторыя памылак».

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.15** Месцы сілы.
**10.55** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.00** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**13.55** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.30** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.40** Беларуская часіна.
**17.55** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**19.00** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Ювентус» - «Рэал». Прамая трансляцыя.
**00.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд дня.

### 3 Беларусь

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Сінематэка». Творчасць актрысы кіно і тэатра Ірыны Нарбекавай.
**08.50** «Святыні зямлі беларускай». Дакументальны фільм.
**09.20** «Палескі пачастунак». Маннік.
**09.35** «Зорка эпохі». 5-я серыя.
**10.25** «Дыя@блог». Пра літаратуру.
**10.55** «Дзяржаўная граніца». Фільм шосты «За парогам Перамогі».
**13.10** «Калейдаскоп».
**13.15** «Святло далёкай зоркі». Памяці акцёра Паўла Пекура.
**13.40** «Майстры і чаляднікі». Народныя промыслы Беларусі. Мастакі-керамісты.
**14.15** «Пясняр Нарачанскага краю». Жыццё і творчасць Максіма Танка.
**14.40** «Вострaў». Творчасць расійскага рэжысёра Паўла Лунгіна.
**15.00** «У рэху імені твайго...». Жонка Януша Радзівіла - Соф’я Слуцкая.
**15.15** «Пацалунак Сакрата». Фільм першы «Смяротны водар». 1-я і 2-я часткі.
**16.55** «Беларускі космас». Дак. фільм.
**17.30** «Сінематэка». Творчасць актрысы кіно і тэатра Ірыны Нарбекавай.
**18.10** «Калейдаскоп».
**18.20** «Дзяржаўная граніца». Фільм сёмы. «Салёны вецер».
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Пацалунак Сакрата». Фільм другі «Каралі Нефераціці». 1-я і 2-я часткі.
**22.30** «Дыя@блог». Пра літаратуру.
**22.55** «Зорка эпохі». 6-я серыя.
**23.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці акцёра Паўла Пекура.
**00.15** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.30** Вострасюжэтны серыял «Шэф».
**21.15** Баявік «Пацалунак у галаву».
**23.15** Сёння. Вынікі.
**23.40** Дэтэктыў «3 жыцця капітана Чарняева».

### МИР

**05.00** Тэлесерыял «Пяць хвілін да метро».
**06.35** Мультфільмы.
**07.05** Праграма «Цік-так».
**07.20** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.15** Мастацкі фільм «Рабыня кахання».
**11.15** Праграма «Навіны Садружнасці (беглы радок). Культура».
**12.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**12.25** Мастацкі фільм «Клон».
**14.05** Дак. фільм «У свеце цудаў».
**15.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**15.25** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Тэлесерыял «Закон».
**18.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**18.25** Праграма «Саюзнікі».
**19.00** Мастацкі фільм «Згуба імперыі».
**21.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**21.25** Праграма «Акцэнты».
**21.35** Тэлесерыял «Турэцкі гамбіт».
**01.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**02.20** Тэлесерыял «Клон».
**03.50** Дак. фільм «У свеце цудаў».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Два на два.
**08.55** Аб’ектыў.
**18.00** «Эпоха Барадуліна», дак. фільм.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** рэпартаж «Euronews».
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** рэпартаж «Euronews».
**20.00** Навіны.
**20.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб’ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Дэкалог-89+», цыкл кароткаметражных фільмаў: фільм 10. «Рэал».
**21.50** «Белая візітоўка», серыял: 2 серыя.
**22.45** Аб’ектыў.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 6 ЛІСТАПАДА, СЕРАДА

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.13** «Зона Х». Крымінальная хроніка.
**07.17** Прагноз надвор'я.
**08.10** «Зона Х». Крымінальная хроніка.
**08.14** Прагноз надвор'я.
**09.09** Прагноз надвор'я.
**09.11** Серыял «Сэрца Мары» (Расія).
**10.05** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**10.59** Дак. цыкл «Будзь у тонусе».
**12.11** Прагноз надвор'я.
**12.13** «Дзень у вялікім горадзе».
**13.21** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.26** Прагноз надвор'я.
**15.28** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Украіна-Расія). 2-я серыя.
**16.35** Зямельнае пытанне.
**17.08** БеларусьLIFE.
**17.34** Серыял «Сэрца Мары» (Расія).
**18.40** Навіны рэгіёна.
**19.21** Прагноз надвор'я.
**19.23** АТН цыклу «Адмысловы рэпартаж».
**19.39** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**21.00** «Панарама».
**21.58** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**23.46** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**00.22** Дзень спорту.
**00.33** Прагноз надвор'я.
**00.35** АТН цыклу «Адмысловы рэпартаж».
**00.52** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Украіна-Расія). 2-я серыя.

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Самы лепшы муж».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Наша Белараша».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** Прэм'ера. «Сын бацькі народаў». Шматсерыйны фільм.
**23.25** Камедыя «Пацалуй мяне на разві-танне».
**01.20** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Барысаў.
**09.15** «Нам і не сніласяя».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: у пошуках смаку».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Барысаў.
**14.05** Фільм «Цацка». Францыя, 1976г.
**15.50** «Жывая тэма».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не сніласяя».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Кайданава.
**20.30** Фільм «Галоўная вуліца». ЗША, 2010 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.00** «Дабро пажаліцца».
**00.25** «Дакументальны праект».

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.15** Цудоўная сямёрка. Вяртанне.
**10.50** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**11.50** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**13.45** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**14.55** Трагікамедыя «Восеньскія сны».
**16.40** Беларуская часіна.
**17.55** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**19.00** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Барселона» - «Мілан». Прамая трансляцыя.
**00.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд дня.

### Беларусь 3

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі - смелы прапаведнік імя Хрыстова». Жыццё і творчасць.
**08.40** «Сінематэка». Рэжысёр Ігар Волчак.
**09.20** «У рэху імені твайго». Жыццё і лёс каралевы Альдоны.
**09.35** «Зорка эпохі». 6-я серыя.
**10.25** «Дыя@блог». Пра прыгожае.
**10.55** «Дзяржаўная граніца». Фільм сёмы. «Салёны вецер».
**13.00** «Калейдаскоп».
**13.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі М. Пятрова.
**13.35** «Майстры і чаляднікі». Народныя промыслы Беларусі. Кавалі.
**14.05** «Камертон». Кампазітар і спявак Ігар Карнялюк.
**14.35** «Барвовая трава». Кароткаметражны фільм па матывах апавядання беларускага пісьменніка А. Вараноўгіча «Жылі-былі».
**15.05** «Росчырк часу». Брэсцкі музей.
**15.15** «Пацалунак Сакрата». Фільм другі «Каралі Неферціці». 1-я і 2-я часткі.
**17.00** «Найменні і вобразы». Творчасць І.Мамановіч і М.Кулецкай - роспіс па шкле.
**17.15** «Лабірынты». Святыя крыніцы.
**17.40** «Пейзажы скрозь час». Гарлачыкі Манэ.
**18.10** «Калейдаскоп».
**18.20** «Дзяржаўная граніца». Фільм восьмы. «На дальнім памежжы».
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Пацалунак Сакрата». Фільм трэці «Праклён Эдварда Мунка». 1-я і 2-я часткі.
**22.30** «Дыя@блог». Пра прыгожае.
**22.55** «Зорка эпохі». 7-я серыя.
**23.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі М.Пятрова.
**00.15** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.50** Вострасюжэтны серыял «Шэф-2».
**21.35** Серыял «Пятніцкі. Глава трэцяя».
**23.20** Сёння. Вынікі.
**23.50** Дэтэктыў «3 жыцця капітана Чарняева».

### МИР

**05.00** Тэлесерыял «Пяць хвілін да метро».
**06.35** Мультфільмы.
**07.05** Праграма «Цік-так».
**07.20** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.10** Служылі два таварышы.
**10.50** Праграма «Агульны інтарэс».
**11.20** Праграма «Беларусь сёння».
**12.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**12.25** Тэлесерыял «Клон».
**14.05** Дакументальны фільм «У свеце каменных джунгляў».
**15.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**15.25** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Тэлесерыял «Закон».
**18.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**18.25** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».
**19.00** Тэлесерыял «Згуба імперыі».
**21.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**21.25** Праграма «Акцэнты».
**21.35** Мастацкі фільм «Стацкі дараднік».
**23.55** Ток-шоў «Слова за слова».
**00.45** Мастацкі фільм «Рабыня кахання».
**02.25** Тэлесерыял «Клон».
**04.10** Дак. фільм «Рэальны свет».

### БЕЛСАТ tv

**07.00, 19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Пётр I і Беларусь.
**08.55** Аб'ектыў.
**18.00** «Агнём і мячом», серыял: 2 серыя.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Чацвёра вушэй у пералеску».
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** рэпартаж «Euronews».
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** рэпартаж «Euronews».
**20.00** Навіны.
**20.25** Маю права (юрыдычная праграма). Што рабіць, калі дзяржава парушае вашыя правы?.
**20.45** Моўнік (лінгвістычная праграма). Эксперты-моваведы апавядаюць, якою была і якою ёсць нашая мова, а таксама падказваюць, як правільна выказацца пабеларуску.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Глыбокая вада–2», серыял: 9 серыя.
**22.10** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**22.45** «Эпоха Барадуліна», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**23.35** Аб'ектыў.

## 7 ЛІСТАПАДА, ЧАЦВЕР

### Беларусь 1

**07.12** Мультфільмы.
**07.32** Камедыя «Нашы суседзі» («Беларусьфільм»).
**09.00** Навіны.
**09.09** Прагноз надвор'я.
**09.11** Музычная камедыя «Вяселле ў Малінаўцы» (СССР).
**10.57** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**12.00** Навіны.
**12.11** Прагноз надвор'я.
**12.13** Эксцэнтрычная камедыя «Выкрасці Бельмандо».
**14.20** Каробка перадач.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.31** Прагноз надвор'я.
**15.33** БеларусьLIFE.
**16.01** Камедыі.
**16.45** Юбілейны вечар Алега Міцяева «…якому за 50» (Расія).
**18.32** Вялікая прэм'ера! Біяграфічная драма «Легенда № 17» (Расія).
**21.00** «Панарама». Інфармацыйны канал.
**21.40** Прэм'ера. Меладрама «Мільянер» (Украіна).
**23.41** Эксцэнтрычная камедыя «Выкрасці Бельмандо» («Беларусьфільм»- Белтэлерадыёкампанія).
**01.31** Дзень спорту.
**01.41** Гімн Рэспублікі Беларусь.

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**07.00** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Пра добрае старое кіно».
**10.05** Фільм «Кубанскія казакі».
**12.15** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.15** Фільм «Масква слёзам не верыць».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Драма «Сава Марозаў».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Здабытак Рэспублікі».
**23.05** Фільм «Матч».

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «Прошаная вячэра».
**06.50** Фільм «Патапаў, да дошкі!». Расія, 2007г.
**08.30** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Кайданава.
**08.45** «Легенды СССР». «Наша шчаслівае дзяцінства».
**09.40** «Легенды СССР». «Легенда пра катлету і кампот».
**10.35** «Легенды СССР». «Савецкая мода».
**11.30** «Легенды СССР». «Кватэрнае пытанне».
**12.25** «Легенды СССР». «Савецкая эстрада».
**13.20** «Легенды СССР». «Савецкія святы».
**14.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Кайданава.
**14.35** «Легенды СССР». «Савецкае кіно».
**15.30** «Легенды СССР». «Савецкі спорт».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Прошаная вячэра».
**17.30** Фільм «Чатыры таксісты і сабака». Расія, 2004г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Маладзечна.
**20.10** Фільм «Чатыры таксісты і сабака 2». Расія, 2006г.
**22.40** «Аўтапанарама».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** Фільм «Алімпійская вёска». Расія, 2011г.

### Беларусь 2

**07.30** Трагікамедыя «Восеньскія сны» («Беларусьфільм»).
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Прэм'ера. «Другое сэрца». Дакументальны фільм («Беларусьфільм»).
**09.20** Мультфільмы.
**10.00** Фільм-казка «Асліная шкура» (СССР).
**11.25** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**13.20** Лірычная камедыя «Я крочу па Маскве» (СССР).
**14.55** Ваенна-прыгодніцкі баявік «У жніўні 44-га...» (Беларусь - Расія).
**17.10** Камедыя «Сем нявест яфрэйтара Збруева» (СССР).
**18.55** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**20.50** Тэлебарометр.
**20.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Санкт-Гален» - «Валенсія». Прамая трансляцыя. У перапынку: 21.45 «КЕНО».
**23.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Севілья» - «Слован». Прамая трансляцыя.

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Год у гісторыі». 1917.
**08.20** «Юнацтва Максіма». Фільм першы.
**09.55** «Зорка эпохі». 7-я серыя.
**10.50** Прэм'ера. «Залаты Віцязь. Мікалай Бурляеў». Дак. фільм пра творчасць кінарэжысёра, народнага артыста Расіі.
**11.50** «Вяртанне Максіма». Фільм другі.
**13.35** «Калейдаскоп».
**13.40** «Год у гісторыі». 1917.
**13.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнай артысткі Беларусі Стэфаніі Станюты.
**14.20** «Біяграфія маёй рэспублікі». Пачатак шляху. Дакументальны фільм.
**15.20** «Пацалунак Сакрата». Фільм трэці «Праклён Эдварда Мунка». 1-я і 2-я часткі.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.05** «То лі яшчэ было...» Сумесны творчы вечар народнага артыста СССР Ігара Лучанка і народнага артыста Беларусі Эдуарда Ханка пры удзеле Нацыянальнага акадэмічнага аркестра Беларусі імя І.Жыновіча.
**18.15** «Выбаргскі бок». Фільм трэці.
**18.40** «Калейдаскоп».
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Пацалунак Сакрата». Фільм чацвёрты «Чысты лёд». 1-я і 2-я часткі.
**22.30** «Зорка эпохі». 8-я серыя, заключная.
**23.20** Прэм'ера. «Залаты Віцязь. Мікалай Бурляеў». Дакументальны фільм пра творчасць кінарэжысёра, народнага артыста Расіі.
**00.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнай артысткі Беларусі Стэфаніі Станюты.
**00.50** «Калейдаскоп».
**00.55** «Год у гісторыі». 1917.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** «Выратавальнікі».
**09.05** «Медыцынскія таямніцы».
**09.35, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.55** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.00** Сёння.
**19.45** Вострасюжэтны серыял «Шэф-2».
**21.35** Дэтэктыўны серыял «Пятніцкі. Глава трэцяя».
**23.20** Сёння. Вынікі.
**23.45** Дэтэктыў «3 жыцця капітана Чарняева».

### МИР

**05.00** Тэлесерыял «Пяць хвілін да метро».
**06.35** Мультфільмы.
**07.05** Праграма «Цік-так».
**07.20** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.15** Мастацкі фільм «Небяспечныя гастролі».
**11.15** Праграма «Дыяспары».
**11.45** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**12.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**12.25** Тэлесерыял «Клон».
**14.10** Дакументальны фільм «У свеце цудаў».
**15.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**15.25** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Тэлесерыял «Закон».
**18.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**18.25** Праграма «Злачынства і пакаранне».
**19.00** Тэлесерыял «Згуба імперыі».
**21.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**21.25** Праграма «Акцэнты».
**21.40** Праграма «Наша марка».
**22.05** Ток-шоў «Слова за слова».
**22.55** Мастацкі фільм «Служылі два таварышы».
**00.40** Мастацкі фільм «Уцёкі з турмы».
**02.25** Тэлесерыял «Клон».
**04.05** Дак. фільм «У свеце цудаў».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.25** Маю права (юрыдычная праграма). Што рабіць, калі дзяржава парушае вашыя правы?.
**08.45** Моўнік (лінгвістычная праграма). Эксперты-моваведы апавядаюць, якою была і якою ёсць нашая мова, а таксама падказваюць, як правільна выказацца пабеларуску.
**09.00** Аб'ектыў.
**18.00** «Глыбокая вада–2», серыял: 9 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** рэпартаж «Euronews».
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** рэпартаж «Euronews».
**20.00** Навіны.
**20.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма). Белсатаўская камера пранікае ўсюды, дзе цікава, і фіксуе ўсё, што варта фіксаваць!
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Час гонару», серыял: 58 серыя.
**22.10** Маю права (юрыдычная праграма). Што рабіць, калі дзяржава парушае вашыя правы?.
**22.30** «Раскіданы дом», дак. фільм, 1996 г., Польшча.
**23.10** Аб'ектыў.

## 8 ЛІСТАПАДА, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.13** «Зона Х». Крымінальная хроніка.
**07.17** Прагноз надвор'я.
**08.10** «Зона Х». Крымінальная хроніка.
**08.14** Прагноз надвор'я.
**09.09** Прагноз надвор'я.
**09.11** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.05** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**10.59** Дакументальны цыкл «Будзь у тонусе» (Аўстралія).
**12.11** Прагноз надвор'я.
**12.13** «Дзень у вялікім горадзе».
**13.20** Фантастычны серыял «Каўчэг» (Іспанія). 23-я серыя.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.26** Прагноз надвор'я.
**15.28** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Украіна-Расія). 3-я серыя.
**16.33** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**17.35** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**18.40** Навіны рэгіёна.
**19.21** Прагноз надвор'я.
**19.23** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.53** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія). 11-я серыя.
**21.00** «Панарама».
**21.58** Ваенная драма «Свае» (Расія).
**00.07** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**00.53** Дзень спорту.
**01.04** Прагноз надвор'я.
**01.06** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Украіна-Расія). 3-я серыя.

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Самы лепшы муж».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**17.00** «Народная медыцына».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**23.20** Вострасюжэтны фільм «Чужой супраць драпежнікаў».
**01.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Маладзечна.
**09.10** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: у пошуках смаку».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Маладзечна.
**14.00** Фільм «Галоўная вуліца». ЗША, 2010 г.
**15.45** «Якія людзі».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Слуцк.
**20.30** Фільм «Нявеста з таго свету». ЗША, 2007 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**00.00** Еўрапейскі покерны турнір.
**00.50** Фільм «Каўказская рулетка». Расія, 2002 г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.10** Вышэй за дах.
**10.50** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**11.55** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**13.50** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.00** Ваенна-прыгодніцкі баявік «У жнïўні 44-га...» (Беларусь - Расія).
**17.20** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**17.55** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**19.00** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 9-я і 10-я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма (Расія).
**22.40** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.30** Моладзева-прыгодніцкая камедыя «Еўратур» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Год у гісторыі».
**08.20** «Скарбніца Берасцейшчыны. Моц духу». Пра сучасную Брэсцкую крэпасць.
**08.50** «Віталь Цвірка. Паэзія пейзажу». Дакументальны фільм.
**09.20** «Свет прыроды». Воўк па мянушцы Тэр.
**09.35** «Зорка эпохі». 8-я серыя, закл.
**10.30** «Сіла веры».
**10.55** «Дзяржаўная граніца». Фільм восьмы «На дальнім памежжы».
**13.10** «Калейдаскоп».
**13.15** «Год у гісторыі».
**13.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці графіка Уладзіміра Сакалова.
**13.55** «Майстры і чаляднікі». Народныя промыслы Беларусі. Разьбяры.
**14.25** «Карані». Свята беларускай культуры ў Плянтах (Беласток).
**14.55** «Душа мая з іменем жаночым. Элаіза Ажэшка». Дакументальны фільм пра польскую пісьменніцу.
**15.15** «Пацалунак Сакрата». Фільм чацвёрты «Чысты лёд». 1-я і 2-я часткі.
**16.55** «Глыбокае». Дакументальны фільм пра старажытны горад Беларусі.
**17.05** «Дзве цвярдыні». Цэрквы-крэпасці Белай Русі. Дакументальны фільм.
**17.20** «Раўнавага». Шум і цішыня. Пра ўплыў гукаў на наваколны свет.
**17.45** «Палескі пачастунак». Бліны з мачанкаю і каўбаска «па-палеску».
**18.00** «Лабірынты». Чарэйскае княства князёў Сапегаў.
**18.30** «Цуды прыроды». Вялікабрытанія. Казахстан. Кітай. Чэхія.
**19.00** «Калейдаскоп».
**19.10** «Антон Іванавіч злуецца». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Пацалунак Сакрата». Фільм пяты «Плача анёл Шагала». 1-я і 2-я часткі.
**22.30** «Пацалунак Сакрата». Фільм шосты «Таямніца залатых Апосталаў». 1-я і 2-я часткі.
**00.10** «Сіла веры».
**00.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці графіка Уладзіміра Сакалова.
**01.00** «Калейдаскоп».
**01.05** «Год у гісторыі».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** «Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.55** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Шэф-2».
**23.10** Дэтэктыў «3 жыцця капітана Чарняева».
**00.50** «Авіятары».

### МИР

**05.00** Тэлесерыял «Пяць хвілін да метро».
**06.35** Мультфільмы.
**07.05** Праграма «Цік-так».
**07.20** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.15** Мастацкі фільм «Бамбіла».
**11.15** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**11.45** Праграма «Рэспубліка сёння».
**12.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**12.25** Тэлесерыял «Клон».
**14.05** Дакументальны фільм «У свеце цудаў».
**15.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**15.25** Тэлесерыял «Закон».
**18.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**18.25** Мастацкі фільм «Афёра».
**20.05** Праграма «Любімыя акцёры».
**20.30** Мастацкі фільм «Саламяны капялюшык».
**22.50** Мастацкі фільм «Дэжа Вю».
**00.45** Мастацкі фільм «Небяспечныя гастролі».
**02.30** Тэлесерыял «Клон».
**04.00** Дакументальны фільм «У свеце цудаў».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма). Белсатаўская камера пранікае ўсюды, дзе цікава, і фіксуе ўсё, што варта фіксаваць!
**08.55** Аб'ектыў.
**18.00** «Ранча», серыял: 25 серыя.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Дэвайс.
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** рэпартаж Алеся Залеўскага.
**20.15** Дэвайс.
**20.30** Невядомая Беларусь: «Па кім маўчыць звон?», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Дом», серыял: 9 серыя.
**23.05** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма). Белсатаўская камера пранікае ўсюды, дзе цікава, і фіксуе ўсё, што варта фіксаваць!
**23.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

## 9 ЛІСТАПАДА, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.55** Музычная камедыя «Вяселле ў Малінаўцы» (СССР).
**08.33** «Існасць». Духоўная праграма.
**09.00** Навіны.
**09.09** Прагноз надвор'я.
**09.11** Зямельнае пытанне.
**09.38** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**12.00** Навіны.
**12.11** Прагноз надвор'я.
**12.13** «Здароўе». Ток-шоў.
**13.03** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**13.34** Нашы.
**13.47** Таямніцы следства.
**14.16** «Вакол планеты».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.31** Прагноз надвор'я.
**15.33** Біяграфічная драма «Легенда № 17» (Расія).
**17.59** Камеды.
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.00** Навіны.
**19.11** Прагноз надвор'я.
**19.13** Камедыйная меладрама «Сям'я».
**21.00** «Панарама». Інфармацыйны канал.
**21.40** Урачыстае закрыццё XX ММКФ «Лістапад-2013».
**22.27** Раскадроўка (АТН).
**22.28** Прэм'ера! Фільм-катастрофа «Немагчымае» (Іспанія).
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна).

### ОНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** Мультфільмы.
**13.20** «Зваротны адлік».
**13.55** «Вяпрук». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Адгадай мелодыю».
**17.00** «Абмен жонкамі».
**18.10** «Адзін супраць усіх».
**19.05** «Хвіліна славы. Дарога на Алімп!».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.55** «Што? Дзе? Калі?».
**00.10** Фільм «Рэйд».

### СТВ

**06.30** «NEXT 2». Серыял.
**08.10** Фільм «Нявеста з таго свету». ЗША.
**09.55** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Слуцк.
**10.10** «Чыстая праца».
**11.00** «Уявіце сабе».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.40** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Слуцк.
**13.55** Фільм «Восеньскі марафон». СССР.
**15.40** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Эліксір маладосці».
**18.35** «Дзіўная справа».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Салігорск.
**20.20** Фільм «Прышэльцы 2: калідоры часу». Францыя, 1997г.
**22.35** «Зорны рынг. Новы сезон.
**23.50** Фільм «Адкрытае мора». ЗША, 2003г.
**01.20** «Глядзець усім!».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.45** Мультфільмы.
**07.55** Фільм-казка «Варвара краса - Доўгая Каса» (СССР).
**09.20** Тэлебарометр.
**09.25** Месцы сілы.
**09.25** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 9-я і 10-я серыі.
**11.45** «СуперІнтуіцыя. Бітва палоў». Забаўляльная шоў-праграма (Расія).
**12.55** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма (Расія).
**14.05** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**15.30** Лірычная камедыя «Я крочу па Маскве» (СССР).
**17.05** Цудоўная сямёрка. Вяртанне.
**18.10** Імперыя песні.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Бананавы рай» (Расія).
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Рамантычная камедыя «Рыба маёй мары» (Вялікабрытанія).
**23.05** «СуперІнтуіцыя. Бітва палоў». Забаўляльная шоў-праграма (Расія).
**00.05** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Абіцель душы».
**08.35** «Кожны мае права быць розным». Сонечныя дзеці.
**09.00** Дзіцячы фільм. «Цімур і яго каманда».
**10.25** «Дзень Еўфрасінні». Пра жыццё заступніцы і асветніцы зямлі беларускай.
**10.55** «3 гістарычных крыніц».
**11.05** «Наперад у мінулае».
**11.35** «Калейдаскоп».
**11.40** «Запаведнымі сцежкамі беларускай зямлі». Дакументальны фільм.
**12.35** «Тканіна жыцця». («Не прервётся ниточка»). Дакументальны фільм.
**12.50** «Я чуў, як зямля стагнала ...». Пра старэйшага палітрука Гарадзецкага партызанскага атрада Пятра Сільвестравіча Равякова.
**13.20** «Плошча мастацтваў». Актрыса, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Вера Кавалерава.
**13.50** «Карані». Творчасць кампазітара Леаніда Левашкевіча, які жыве ў Пецярбурзе.
**14.15** «Пявучая бронза Занковіча». Дакументальны фільм.
**14.40** «Уладзімір Высоцкі. Беларускі след». Беларускія карані Уладзіміра Высоцкага.
**15.15** «Дарога да дому». Дакументальны фільм пра мастака Барыса Цітовіча.
**15.45** «Джазавая панарама». Біг-бэнд Нацыянальнага аркестра пад кіраўніцтвам М.Фінберга выконвае джазавые тэмы розных гадоў.
**17.25** «Калейдаскоп».
**17.30** «Бацькі і дзеці». 1-я - 4-я серыі.
**18.55** «Калейдаскоп».
**20.30** Калыханка.
**20.50** Сусветнае кіно. «Пагарда».
**22.35** «Без права на дубль». Алена Маёрава.
**23.20** «АРТиШОК». Малады беларускі пісьменнік і паэт Алесь Плотка.
**23.50** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Дарожны патруль».
**08.00, 10.00, 13.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.20** «Я худнею».
**14.15** «ДНК». Ток-шоў.
**15.10** Вострасюжэтны серыял «Важняк».
**16.45** «Следства вялі...».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.25** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**19.50** «Новыя рускія сенсацыі».
**20.55** «Ты не паверыш!».
**21.55** «Выспа».
**23.25** Дэтэктыў «3 жыцця капітана Чарняева».
**01.05** «Ягор 360».
**01.35** «Прамень Святла».

### МИР

**05.00** Мастацкі фільм «Электронная бабуля».
**06.10** Мультфільмы.
**08.05** Праграма «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.20** Праграма «Эксперыментатары».
**08.35** Праграма «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.10** Праграма «Свет Спорту».
**09.40** Праграма «Даведнік».
**10.05** Праграма «Зроблена ў СССР».
**10.30** Мастацкі фільм «Крымінальны талент».
**13.15** Мастацкі фільм «Месца сустрэчы змяніць нельга».
**20.10** Праграма «Навіны Садружнасці (беглы радок). Культура».
**20.50** Мастацкі фільм «Спадарыня».
**22.45** Мастацкі фільм «Крымінальны талент».
**01.50** Мастацкі фільм «Дэжа Вю».
**03.45** Праграма «Цюркі Расіі».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Невядомая Беларусь: «Па кім маўчыць звон?», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**08.55** Аб'ектыў.
**18.00** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**18.15** «Восеньскія барды», рэпартаж, 2009 г., Польшча.
**18.35** Забавы «Ліпі і Мэсі».
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**19.00** Рэпартэр.
**19.25** «Белая візітоўка», серыял: 2 серыя.
**20.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма). Погляд на Беларусь з Прагі.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Дзень вялікай рыбы», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**22.25** «Трэці афіцэр», дэтэктыўны серыял.
**23.15** МакраФон: «Рок-карона: запісы 1997–1999 гг.»: ч. 1.
**23.50** Аб'ектыў.

## 10 ЛІСТАПАДА, НЯДЗЕЛЯ

**БЕЛАРУСЬ 1**

**07.10** Меладрама «Мільянер» (Украіна).
**09.00** Навіны.
**09.09** Прагноз надвор'я.
**09.11** «Арсенал». Праграма пра войска.
**09.38** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**12.00** Навіны.
**12.11** Прагноз надвор'я.
**12.13** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.45** Каробка перадач.
**13.22** «Медычныя таямніцы».
**13.52** Заўтра - гэта мы!
**14.23** «Terra incognita. Беларусь невядомая».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.31** Прагноз надвор'я.
**15.33** Клуб рэдактараў.
**16.16** БеларусьLIFE.
**16.40** Дакументальны фільм «Кінааматар. Восенькі сон» («Беларусьфільм»).
**17.09** Юбілейны вечар Алега Міцяева «…якому за 50» (Расія).
**18.54** Прэм'ера. Меладрама «Лекцыі для хатніх гаспадынь» (Расія).
**21.00** «У цэнтры ўвагі».
**21.56** Прагноз надвор'я.
**21.58** Журналісцкае расследаванне. Тэлестужка АТН.
**22.32** Раскадроўка (АТН).
**22.33** Крымінальная камедыя «Гульні джэнтльменаў» (ЗША).
**00.27** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна).

**ОНТ**

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** «Вясельны перапалох».
**12.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.25** Прэм'ера. «Раманавы».
**14.25** Музычная камедыя «Тытунёвы капітан».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Куб».
**17.35** «Эстрадны кактэйль».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Ледавіковы перыяд.
**00.05** Фільм «Двое на дарозе».

**СТВ**

**06.00** «NEXT 2». Серыял.
**07.40** Фільм «Прышэльцы 2: калідоры часу». Францыя, 1997г.
**09.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Салігорск.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Радня». СССР, 1981г.
**14.35** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Мінск.
**17.00** «Аўтапанарама».
**17.30** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**18.00** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Мінская вобласць.
**21.10** Фільм «Траса 60». Канада - ЗША, 2001г.
**23.30** «Якія людзі».
**00.25** Фільм «Субмарына». Данія - Швецыя, 2010г.

**БЕЛАРУСЬ 2**

**07.40** Мультфільмы.
**08.05** Фільм-казка «Залатыя рогі» (СССР).
**09.20** Тэлебарометр.
**09.25** Рамантычная камедыя «Рыба маёй мары» (Вялікабрытанія).
**11.30** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Бананавы рай» (Расія).
**12.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.
**12.55** Камедыя «Сем нявест яфрэйтара Збруева» (СССР).
**14.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**16.05** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**16.45** Камедыйная меладрама «Красуні» (Францыя - Вялікабрытанія).
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Псіхалагічны трылер «У цемры» (Канада).
**22.55** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**23.55** Спорт-кадр.

**БЕЛАРУСЬ 3**

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Таямніца душы».
**08.35** «Кожны мае права быць розным». Складаны пачатак доўгага шляху.
**09.00** «АРТиШОК». Малады беларускі пісьменнік і паэт Алесь Плотка.
**09.30** «Камандзір з вёскі Белае». Дакументальны фільм пра нашага земляка, лётчыка-касманаўта, Героя Савецкага Саюза Уладзіміра Кавалёнка.
**10.00** «Вежы Навагрудка». Дак. фільм.
**10.10** «Слуцкія паясы». Дак. фільм.
**10.45** «Восеньская элегія». Вершы Сяргея Грахоўскага.
**11.00** «Трэці званок для дваіх». Сямейная пара народных артыстаў Беларусі: Галіна Талкачова і Аўгусцін Мілаванаў.
**11.35** «Выратаваць і зберагчы». Навукова-папулярны фільм.
**12.05** «Калейдаскоп».
**12.10** «Бацькі і дзеці». 1-я - 4-я серыі.
**13.35** «Калейдаскоп».
**15.10** «Без права на дубль». Алена Маёрава.
**16.00** «Край чыстай вады». Дакументальны фільм аб прыродзе паўночнага захаду Беларусі.
**16.25** «Гісторыя аднаго горада». Дакументальны фільм пра мінулае горада Мінска.
**17.00** Дзіцячы фільм. «Цімур і яго каманда».
**18.20** «Культпрасвет».
**18.45** Сусветнае кіно. «Пагарда».
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Джаз і класіка». Канцэрт біг-бэнда Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі.
**21.45** «Культпрасвет».
**22.10** «Анджэла і іншыя». Рок-опера Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М.Горкага па творах А.С.Пушкіна.
**0.20 «Калейдаскоп».**

**НТВ**

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Дарожны патруль».
**08.00, 10.00, 13.00** Сёння.
**08.20** «Дзікі свет».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Першая перадача».
**13.15** Фільм «Моцная».
**15.00** Вострасюжэтны серыял «Важняк».
**16.35** «Жалезны габрэй Сталіна».
**17.35** «Ворагі народа». Аўтарскі праект.
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**23.20** «Як на духу».
**00.20** «Анёлы і дэманы. Чыста крамлёўскае забойства». Фільм.
**01.00** «Школа зласлоўя».

**МИР**

**05.00** Мастацкі фільм.
**07.25** Мультфільмы.
**08.05** Праграма «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.10** Праграма «Аэрасвет».
**09.25** Праграма «Прыгоды Македонскай».
**09.50** Праграма «Са свету па нітцы».
**10.10** Мастацкі фільм «Я належу табе».
**13.15** Мастацкі фільм «Бамбіла».
**15.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.45** Тэлесерыял «Зямля і неба».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.25** Тэлесерыял «Зямля і неба».
**23.05** Мастацкі фільм «Мае чарнічныя ночы».
**00.50** Мастацкі фільм «Я належу табе».
**04.00** Праграма «Цыркі Расіі».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**06.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Пінгвінік Пік-Пок», «Мадла і Туп», «Чацвёра вушэй у пераляску».
**07.40** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 10 серыя.
**08.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 10 серыя.
**08.30** «Дзень вялікай рыбы», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**17.55** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма). Погляд на Беларусь з Прагі.
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма). Эксперты-мовазнаўцы апавядаюць, якою была і якою ёсць нашая мова, а таксама падказваюць, як правільна выказацца па-беларуску.
**18.40** Забавы «Ліпі і Мэсі».
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**19.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.30** «Час гонару», серыял: 59 серыя.
**20.15** Дакументальная гадзіна: «Невядомыя і блізкі. Каталіцкі касцёл у Беларусі», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**21.05** Фільматэка майстроў: «Стадыён бяздомных», трагікамедыя, 2008 г., Польшча.
**23.10** «Кароль-вінароб», серыял: 3 серыя.
**23.55** «Калыханка» (сатырычная праграма).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Міхась; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**



БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Кассир

Пеня ____
Всего ____

МЕРКАВАННЕ



# ПЕРАМОГА АВАТАРАЎ

**У Грузіі прайшлі прэзідэнцкія выбары, якія замацавалі перамогу партыі «Грузінская мара». Некаторыя моманты і наступствы гэтых выбараў журналіст НЧ Алег Новікаў абмеркаваў з кіеўскім калегам Сяргеем Атанасавым, які быў на грузінскіх выбарах назіральнікам.**

***— Ці ўвойдуць мінулыя выбары ў падручнікі па гісторыі Грузіі?***

— Безумоўна. І нават не таму, што закончылася эра Саакашвілі. Ключавы момант у тым, што перадача ўлады адбылася мірна. Больш таго, першым, хто павіншаваў новага прэзідэнта, быў кандыдат ад партыі «Нацыянальны рух» (партыя Міхаіла Саакашвілі) Давід Бакрадзэ. Гэта не падобна на фіналы ўсіх папярэдніх прэзідэнцкіх выбараў у Грузіі, якія абавязкова выліваліся ў спробы рэвалюцый або вайсковыя паўстанні. Фактычна, упершыню краіна ў дзень выбараў жыла і працавала ў звычайным рытме. Відавочна, што ў палітычнай эліце канчаткова склаўся кансенсус, які пабудаваны на ідэі еўраатлантычнай інтэграцыі. Усе — нават палітычныя антаганісты — вельмі баяліся за імідж краіны ў вачах Захаду, адчувалі адказнасць і паводзілі сябе вельмі карэктна. Выбары–2013 — вялікі крок на шляху развіцця дэмакратычнай культуры і грамадзянскай супольнасці.

***— Аднак чаму тады на выбарах была невысокая яўка? Усяго, нагадаю, на ўчасткі для галасавання прыйшло каля 46 працэнтаў выбаршчыкаў?***

— Трэба адразу сказаць, што ў выбарчым заканадаўстве Грузіі адсутнічае такое паняцце, як «парог яўкі». Іншымі словамі, для таго, каб выбары адбыліся, дастаткова нават аднаго чалавека. Што тычыцца невялікай колькасці выбаршчыкаў, то, як мяркую, гэта звязана з рэдакцыяй новай канстытуцыі, якая цяпер уступае ў сілу. Паводле новай канстытуцыі, прэм'ер мае значна больш паўнамоцтваў, чым прэзідэнт. Магчыма, таму ў грамадстве і такі невялікі інтарэс да выбараў прэзідэнта.

***— Бідзіна Іванішвілі хутка збіраецца пакінуць пасаду прэм'ера. Хто на ваш погляд, стане яго пераемнікам?***

— Мы даведаемся яго прозвішча 2 лістапада па выніках з'езду ўрадавай партыі «Грузінская мара».

Пакуль галоўныя прэтэндэнты — міністр працы, аховы здароўя і сацыяльных пытанняў Грузіі Давід Сяргеенка і міністр унутраных спраў Іраклій Гарыбашвілі. Хто б ім ні стаў, усё роўна гэта будзе аватар Іванішвілі. Бідзіна працягне нефармальна кіраваць урадам. Тут мы, дарэчы, сутыкаемся з негатыўным бокам рэжыму, які прыходзіць на змену рэжыму Саакашвілі. Рашэнні прымаюцца абсалютна непразрыста. Не кажучы пра тое, што прэм'ер — лідар краіны, па сутнасці абіраецца не народам, а кулуарна на пасяджэннях кіраўніцтва вядучай парламенцкай фракцыі. Але гэта ўжо недапрацоўка аўтараў канстытуцыі.

***— Ці можна лічыць новага прэзідэнта Георгія Маргвелашвілі таксама аватарам Іванішвілі?***

— Наколькі я ведаю, людзі галасавалі за яго галоўным чынам таму, што гэта быў чалавек Іванішвілі. Як палітык, Маргвелашвілі мала каму вядомы. Ён прыйшоў у палітыку толькі ў 2012 годзе, калі атрымаў пасаду міністра адукацыі ва ўрадзе Грузінскай мары. А ў 2013 годзе яго прызначылі віцэ-прэм'ерам грузінскага ўрада. Вось і ўся палітычная біяграфія новага гаранта. Маргвелашвілі хутчэй вядомы ў колах інтэлігенцыі і як выкладчык аднаго са сталічных універсітэтаў.

***— Чаму грузінскі выбаршчык заплюшчвае вочы на тое, што ў краіне скарачаецца прастора публічнай палітыкі, усе рашэнні прымае алігарх?***

— Напэўна, яшчэ не закончылася раман грузінаў з Іванішвілі. Тут, безумоўна, галоўную ролю гуляюць не поспехі яго кабінета, а негатыўныя ўспаміны пра часы Саакашвілі. Гэта і палітычныя рэпрэсіі, і прайграная вайна, і эканамічны крызіс, фактарам якога было расійскае гандлёвае эмбарга. Можна казаць пра тое, што Саакашвілі проста не змог наладзіць патрэбнай камунікацыі з народам падчас правядзення сваіх рэформаў, і на нейкім этапе грузіны проста перасталі разумець, у імя чаго ўсё гэта робіцца.

Аднак я б не казаў, што нацыяналы цалкам прайгралі. У барацьбе з Ніно Бурджанадзэ яны давялі, што з'яўляюцца галоўнай партыяй апазіцыі. Гэта вельмі важна, паколькі шмат хто чакае правядзення бліжэйшым часам пазачарговых парламенцкіх выбараў, якія, на думку часткі грамадскасці неабходныя, з улікам пачатку дзеяння новай канстытуцыі.

***— Ніно Бурджанадзэ падчас апошніх выбараў шмат хто называў пятай калонай ў Грузіі.***

— Не думаю, што ў Грузіі магчыма існаванне такой катэгорыі палітыкаў. Ёсць, звычайна, розныя падыходы да стану расійска-грузінскіх адносінаў, аднак усе згодныя з тым, што дыялог па лініі Масква — Тбілісі можа пачацца выключна пасля таго, як Крэмль афіцыйна прызнае, што Абхазія і Паўднёвая Асецыя — гэта часткі тэрыторыі Грузіі. У сваю чаргу, Масква кажа, што незалежнасць Сухумі і Цхінвалі — гэта не прадмет для дэбатаў. Іванішвілі таксама лічылі прарасійскім палітыкам, аднак пасля прыходу ва ўладу ён не змог размарозіць праблему адносін з паўночным суседам.

***— Ці могуць аддаць пад суд і пасадзіць Саакашвілі?***

— Гэта абяцанне было адным з канькоў выбарчай кампаніі Маргвелашвілі. Ён сцвярджаў, што былы прэзідэнт нямэтаскіравана траціў бюджэтныя грошы і нясе адказнасць за забойствы ў турмах. Аднак у апошнія дні выбараў палітыкі з Грузінскай мары змягчылі тон. Часткова гэта звязваюць з samітам ЕС ў Вільнюсе. Наўрад ці грузінскі ўрад хоча апынуцца ў скуры Януковіча, які не ведае, што рабіць з Цімашэнка. Да Вільнюса Саакашвілі дакладна не будуць чапаць, а потым будзе цяжка прагназаваць. Асаблівых эканамічных поспехаў у каманды «Грузінскай мары» няма, а паказальны працэс над Саакашвілі здольны на нейкі час адцягнуць увагу ад эканамічных праблемаў. У дадатак, усім вядома, што паміж Іванішвілі і Саакашвілі ёсць асабістая непрыязнасць.

***— Калі ўсё ж Саакашвілі застанецца на свабодзе, што ён будзе рабіць?..***

— Ён будзе спрабаваць адаптавацца да новай сітуацыі. Я думаю, з палітыкі ён дакладна не сыдзе і, магчыма, будзе намагацца вярнуцца. У Грузіі ўсе партыі маюць персаніфікаваны характар, а такая яскравая асоба, як Саакашвілі, стоадсоткава будзе запатрабаваная на палітычным рынку. Тым больш, што цяперашні ўрад наўрад ці здольны зрабіць хоць дзесяць працэнтаў рэформаў, што зрабіў Саакашвілі.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Лукашэнка працягвае і развівае надзвычай зневажальны для Расіі калійны скандал. Нягледзячы на капітуляцыю Масквы, нягледзячы на яе згоду адправіць гендырэктара «Уралкалія» Уладзіслава Баўмгертнера пад варту, абы закладніка вярнулі з Мінска ў Расію, кіраўнік сяброўскай дзяржавы ўсё роўна яго не аддае, патрабуючы яшчэ і пару мільярдаў долараў у якасці пакрыцця сваіх «стратаў». Мала таго, днямі распаўсюдзіліся чуткі, быццам беларускія спецслужбы спрабавалі выкрасці ў Маскве аднаго з топ-менеджараў «Беларуськалія», які ўцёк у Расію. Такі рэальны побыт Мытнага саюза. Дык каго вінаваціць? Тых, хто з вялікай выгадай для сябе эксплуатуе крамлёўскі міф пра новы Савецкі Саюз? Ці ўсё ж тых, хто за гэты аджылы міф працягвае чапляцца?

**«Росбалт» (Расія)**

У траўні гэтага года на бішкекскі саміт СНД не прыляцеў Лукашэнка. Таму некаторыя палітолагі пазітыўна ўспрынялі тое, што Атамбаеў не выправіўся на саміт. Беларусь адмахваецца, калі гаворка заходзіць аб экстрадыцыі Бакіева. Лукашэнка адкрыта выступае ў падтрымку Бакіева. Таму наш прэзідэнт мае рацыю: з якой нагоды яму ляцець туды? Іх прэзідэнт таксама адсутнічаў у ходзе Бішкекскага саміту. Мы таксама павінны навучыцца дэманстраваць сваю пазіцыю на знешнепалітычнай арэне.

**«Gezitter» (Кыргызстан)**

На думку шэрагу беларускіх экспертаў, крызіс у Беларусі ўжо наступіў, пра што сведчыць не толькі скарачэнне экспарту прадукцыі прамысловасці, але таксама тэмпы інфляцыі, адток капіталу і кваліфікаванай рабочай сілы, а таксама мноства іншых фактараў. Шэраг расійскіх экспертаў мяркуе, што Аляксандр Лукашэнка дарэмна спрабуе ўскласці адказнасць за падзенне курсу беларускага рубля на насельніцтва, а за падзенне коштаў на калійныя ўгнаенні — на новую стратэгію «Уралкалія», якая абумоўлена тэндэнцыямі на сусветным рынку.

**REGNUM (Расія)**

Украінскі патэрналізм у дадзены момант заслугоўвае асаблівай увагі: ён цікавы сваёй дынамікай і зменамі. Ён адрозніваецца ад беларускага патэрналізму крайнім сцвярджэннем сваёй нацыянальнай прыналежнасці. Тое, што можа сабе дазволіць Украіна, не можа сабе дазволіць Беларусь, беларусы і Лукашэнка. Беларускі патэрналізм абапіраецца і ўпіраецца ў штучны рэжым, залежыць ад яго ў аднабаковым парадку, што вымушана стварае прыцягненне беларусаў да Расіі, знішчае этнічны код, які мае векавую еўрапейскую культуру. Гэтыя падзеі — агідныя. Беларусь стала палянай для танцаў маргінальных неаінтэгратараў, якія высеклі дрэвы маладой нацыі, кінуўшы іх у полымя сваіх геапалітычных фантазій. Ці спыталі гэтыя неаінтэгратары ў народа наконт стварэння новай прыступкі еўразійскай інтэграцыі. Рэферэндум цяпер не патрэбны? Ці ён патрэбны, толькі каб спытацца, ці можна Лукашэнка ў чарговы раз зрабіць сябе прэзідэнтам? Хто стварае новую адзіную геапалітычную і эканамічную прастору, і як у гэтым стварэнні ўдзельнічае народ, народы, грамадства і чалавек? Ці 20-я гады мінулага стагоддзя так нічому і не навучылі сучасную ўладу?

**«Главком» (Украіна)**

Саміт у Мінску паказаў, што ў Мытным саюзе існуе мноства ўнутраных супярэчнасцяў і без пытання ўступлення новых краін у дадзенае эканамічнае аб'яднанне. Падобна на тое, што кіраўнікі Беларусі і Казахстана больш чым дбайна ставяцца да лідзіруючай ролі Расіі ў гэтым саюзе. Сёння ў рамках МС разгарнулася сапраўдная вайна амбіцый. Заява Лукашэнкі пра інтарэсы Азербайджана, прапанова Назарбаева па Турцыі сведчаць аб тым, што ўжо сёння, на стадыі станаўлення, у МС бушуе канфлікт інтарэсаў і сур'ёзнае супрацьстаянне паміж яго чальцамі. Гэта ставіць пад сумнеў будучыню Мытнага саюза.

**«Голос Армении» (Арменія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### СЛАВЕНІЯ. ПАЛІЦЬ — ДАПАМАГАЦЬ КАМУНІЗМУ

Младэн Долар — славенскі псіхааналітык і філосаф, які працуе разам з адным з самых вядомых сучасных фрэйда-марксісцкіх філосафаў Славоем Жыжэкам, — заклікаў камуністаў усіх краін падтрымаць рух курыльшчыкаў. Па-першае, на яго думку, курыльшчыкі з-за маштабнай антытабачнай кампаніі становяцца такімі ж ізгоямі, як чарнаскурыя ў Паўднёвай Афрыцы ў часы апартэіду або яўрэі ў гітлераўскай Германіі. У дадатак сярод аматараў цыгарак узнікае пачуццё салідарнасці. «Курэнне — гэта кароткачасовае задавальненне, якое патрабуе прыняцця рашэння ў непасрэдна ў дадзены момант, яго нельга адсунуць куды-небудзь у няпэўна далёкую будучыню. Два курца — гэтага ўжо дастаткова для фарміравання камуністычнай ячэйкі. Гэта партыя, якая імгненна разбурае іерархічныя бар'еры — трэба толькі чыркнуць запальнічкай», — піша Младэн. Філосаф таксама аналізуе з класавых пазіцый такую сацыяльную з'яву, як перакур. Паводле яго слоў, «перакур — гэта час, калі ты вольны ад патрабаванняў і абавязкаў, якія пануюць над табой на працоўным месцы. Перакур — гэта пераважна сацыяльны акт — курэнне ў адзіноце не дае таго ж эфекту». Артыкул Долара перадрукавалі шматлікія левыя выданні, аднак, падаецца, самі левыя партыі пакуль не збіраюцца абараняць курыльшчыкаў. Магчыма, таму, што гэта будзе значыць падтрымку табачных кампаній.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. НАВОШТА МЯДЗВЕДЗЕВУ ЖАНОЧЫЯ АКУЛЯРЫ?

Дзіўны выбар аксесуараў прэм'ерам Дзмітрыем Мядзведзевым стаў прадметам кпінаў з боку прадстаўнікоў расійскай блогасферы. Уважлівыя блогеры на фотаздымках заўважылі, што кіраўнік урада Расійскай Федэрацыі носіць эфектныя і дарагія сонцаахоўныя акуляры гандлёвай маркі «Cartier». Кошт мадэлі «Panthère de Cartier» складае каля тысячы долараў. Але, як заяўляюць блогеры, Мядзведзеў надае перавагу жаночым мадэлям акуляраў. Скандальная навіна шырока разляцелася па інтэрнэту. У дадатак з'явілася фатаграфія Дзмітрыя Мядзведзева і Элтана Джона, які носіць падобныя акуляры. Брытанскі спявак-гей прыходзіў на сустрэчу з расійскім прэм'ерам менавіта ў «Panthère de Cartier». Блогеры адразу разрадзіліся з'едлівымі каментарамі на адрас прэм'ера накшталт: «Не варта было яму з Элтанам Джонам мець такія цесныя зносіны...» Праўда, ёсць і такія, хто лічыць, што Мядзведзеў намагаецца даць простым расіянам прыклад, як трэба эканоміць ва ўмовах крызісу. «Замест таго, каб набываць і сабе дарагія акуляры, ён карыстаецца акулярамі жонкі, бо хвалюецца за сямейны бюджэт», — пішуць на інтэрнэт-форумах

**Паводле расійскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. ВЕТЭРАНЫ «САЛІДАРНАСЦІ» СУПРАЦЬ КАМАРОЎСКАГА

Прэзідэнт Польшчы Браніслаў Камароўскі моцна пасварыўся з былымі дысідэнтамі, якія стаялі ў вытокаў славутай «Салідарнасці». Прычынай стаў прысуд былому актывісту «Салідарнасці» Петру Ікановічу. Петра асудзілі на тры месяцы турмы за бойку ў 2000 годзе падчас прафсаюзнага пікета (Ікановіч дасюль вельмі актыўны ў польскім прафсаюзным і левым руху). Непасрэдна Петра абвінавацілі ў тым, што ён збіў чыноўніка. У адказ група былых актывістаў «Салідарнасці» звярнулася з адкрытым лістом да прэзідэнта. На думку падпісантаў, «часы, калі грамадская дзейнасць цягнула за сабой пагрозу турмы, павінны назаўсёды застацца ў мінулым». Камароўскі (дарэчы, таксама дзеяч антыкамуністычнага падполля, хаця і не такі славуты) вырашыў напісаць ліст у адказ. На яго думку, дысідэнты папросту клапоцяцца пра свайго знаёмага, а Ікановіч у дадзеным выпадку, на жаль, з'яўляецца злачынцам, які павінен панесці пакаранне. Камароўскі гатовы падтрымаць ідэю амністыі для Ікановіча, калі ён звернецца ў адпаведную інстанцыю. Адказ Камароўскага спрыяў яшчэ большай эскалацыі канфлікту. На думку Ікановіча (ён пакуль на свабодзе), польскі гарант не разумее значэння гэтай справы для польскага грамадства. Пікет, падчас якога адбылася бойка, быў выкліканая рашэннем таго самага збітага чыноўніка — у прымусовым парадку выселіць двух хворых пенсіянераў з кватэры за камунальныя даўгі.

**Паводле польскай прэсы**

### МАЛДОВА. ВЕТЭРАНАМ НЕ ДАДУЦЬ УЗНАГАРОДУ СНД

Прэс-сакратар прэзідэнта Малдовы заявіў, што малдоўскім ветэранам не будзе ўручацца адзіны для постсавецкай прасторы медаль, прымеркаваны да 70-годдзя Вялікай Перамогі «з-за наяўнасці на медалю выявы сярпа і молата». «Малдова не супраць у прынцыпе такога медаля, але прэзідэнт перадасць сваім калегам, што Малдова не можа прыняць медаль, на якім выгравіраваны серп і молат. Ён думае, што варта пазбегнуць выкарыстання сімвалічных выяваў сярпа і молата па прычыне ўрону, нанесенага савецкім рэжымам», — гаворыцца ў заяве прэс-сакратара. Гэта выклікала шквал пратэстаў з боку малдаўскіх камуністаў. Яны патрабуюць, каб парламент даў ацэнку словам прэзідэнта і правёў адпаведныя дэбаты. З улікам таго, што фракцыя камуністаў не мае ў парламенце большасці, ідэю адразу пахавалі. Цяпер камуністы выношваюць іншы план — папрасіць Пуціна, каб ён тайна перадаў тыя медалі ў Малдову. А камуністы неафіцыйна раздадуць узнагароды ветэранам. На сённяшні дзень у Малдове пражывае 2300 ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны.

**Паводле малдаўскай прэсы**

---

З НАГОДЫ

# УГА НУМАР ДВА

*Алег НОВІКАЎ*

**У Беларусі з візітам знаходзіўся Рафаэль Карэа, якога называюць пераемнікам Уга Чавеса на пасадзе лідара лацінаамерыканскіх левых.**



Нягледзячы на тое, што Рафаэль Карэа ўзначальвае Эквадор з 2006 года, па сапраўднаму яго палітычная зорка пачала ўзыходзіць толькі зараз. Доўгі час Рафаэль знаходзіўся ў цені Уга Чавеса. Смерць апошняга выклікала нефармальнае спаборніцтва за сімвалічны статус новага лідара лацінаамерыканскіх левых. Прэса піша, што Карэа тут яўны фаварыт на фоне іншых прэтэндэнтаў — балівійца Эва Маралеса і ўругвайца Хасэ Мухіка Кардана.

Карэа спраўджвае чаканні тых, хто бачыць у ім новага месію. Яго рашэнне даць прытулак Джуліяну Асанджу ў эквадорскай амбасадзе ў Лондане — выклік на адрас ЗША. Хаця эпізод з заснавальнікам «Wikileaks» — далёка не першы гучны канфлікт паміж Кіта (сталіца Эквадора) і Вашынгтонам. Раней, у 2008-м, Карэа адмовіўся плаціць амерыканцам доўг памерам у 3,6 мільярда долараў, заявіўшы, што гэтая пазыка нелегітымная.

Такіх крокаў, здавалася, менш за ўсё трэба было чакаць ад чалавека, які добра ведае ЗША (Карэа вучыўся ва ўніверсітэце штату Ілінойс) і, адпаведна, пазбаўлены папулярных у Лацінскай Амерыцы забабонаў супраць грынга. Тым больш, што дзякуючы дыпломам заходніх універсітэтаў і ступені доктара эканамічных навук малады Рафаэль (ён нарадзіўся ў 1963 годзе) так лёгка трапіў у палітычную эліту пасля вяртання дадому ў 2005 годзе. Яму далі пасаду міністра эканомікі, што дазволіла выйсці ў публічную палітыку і змагацца за ўладу на выбарах 2006-га.

Свайму фенаменальнаму ўзлёту на пасаду кіраўніка дзяржавы Рафаэль абавязаны шэрагу момантаў. Перш за ўсё, дзяжурнаму дэфолту нацыянальнай валюты, які адбыўся напярэдадні выбараў. У пошуках альтэрнатывы лібералаьнаму эканамічнаму курсу шмат хто глядзеў на ўсход, дзе знаходзілася Венесуэла. Там Чавес праводзіў шырокія сацыяльныя рэформы, якія выклікалі энтузіязм сярод простых эквадорцаў. Па сутнасці, пераможцам на прэзідэнцкіх выбарах павінен быў стаць той, хто лепш за іншых пабачыцца імпартаваць у Эквадор мадэль Чавеса. Перамог Карэа, які не падмануў свайго выбаршчыка.

Ва ўчынках яго адміністрацыі можна знайсці шмат з таго, што было раней абкатана ў Венесуэле. Пачаць можна з асноў эканамічнай палітыкі: вялізарныя інвестыцыі ў сацыяльны сектар за кошт пераразмеркавання прыбыткаў з нафты, якія фармуюцца праз новыя больш высокія падаткі для нафтавых кампаній. Паводле разлікаў BBC, сёння на школы, шпіталі, аўтастрады, інфраструктуру ідзе каля 40 працэнтаў бюджэту. У дадатак бедная праслойка насельніцтва (каля двух мільёнаў чалавек) атрымлівае ад дзяржавы штомесяц 50 долараў ЗША ў якасці падтрымкі. У выніку за 4 апошніх года ў краіне створаная каля ста тысяч працоўных месцаў. Колькасць беднага насельніцтва з 2006 года скарацілася з 38 працэнтаў да 26-ці. Усё гэта, безумоўна, адлюстравалася на рэйтынгу прэзідэнта. Хаця эканамісты скептычна ставяцца да гэтых прарываў, звяртаючы ўвагу на тое, што 89 працэнтаў ВУП складае нафтавая рэнта.

Як не дзіўна, Карэа падтрымлівае і частка бізнэсу. Прычына не толькі ў тым, што рост сярэдняй класы выклікае рост попыту на ўнутраным рынку. Прыходу Рафаэля Карэа ва ўладу папярэднічала эпоха сапраўднай палітычнай анархіі. За дзесяцігоддзе ў краіне змянілася сем прэзідэнтаў.

Таму імя Карэа шмат для каго — сінонім стабільнасці. Праўда, у стабільнасці, якая трымаецца на адной асобе, ёсць свае відавочныя мінусы. Як калісьці ў Венесуэле, апошнім часам мы бачым у Эквадоры імклівы працэс персаналізацыі ўлады. У 2008 годзе Карэа падкарэктаваў канстытуцыю на рэферэндуме (яго падтрымала 65 працэнтаў), каб дабіцца права абірацца на пасаду прэзідэнта колькі заўгодна разоў. Наступныя выбары ў лютым гэтага года ён зноў выйграў (67 працэнтаў), што яшчэ больш замацавала яго асабісты культ і выклікала яшчэ больш прагнозаў наконт таго, што Эквадор можа чакаць лёс Венесуэлы. У Венесуэлы, дзе ўсё трымалася на асобе Чавеса, пасля яго смерці палітычная сістэма дасюль вельмі не стабільная. Праўда, усе міжнародныя арганізацыі пагаджаюцца, што выбары ў Эквадоры праходзяць без фальсіфікацый.

Ліберальная апазіцыя пакуль, здаецца, не знайшла эфектыўных рэцэптаў барацьбы з Карэа. Інакш бы галоўнымі праціўнікамі прэзідэнта былі б не апазіцыйныя партыі, а прыватныя СМІ, якія кантралююць медыя-рынак. Карэа неаднаразова спрачаўся з рознымі выданнямі. У 2011 годзе разборка прэзідэнта з самым старым у краіне выданнем «El Universo» закончылася турэмным тэрмінам для трох супрацоўнікаў рэдакцыі. Паводле асацыяцыі «Reporters Without Borders», у мінулым годзе ў Эквадоры за крытыку ўладаў былі зачыненыя 12 СМІ, галоўным чынам FM-радыёстанцыі. Дарэчы, з-за таго, што Пекін моцна падтрымлівае Кіта, апазіцыянеры любяць выкарыстоўваць антыкітайскія лозунгі.

Увогуле, толькі адзін раз у 2010 годзе Карэа сапраўды маглі пазбавіць пасады. І зрабіць гэта намагаліся яго чыноўнікі і сілавікі, якім ён скараціў льготы. Паліцэйскія спрабавалі арыштаваць прэзідэнта, аднак верныя яму часткі навялі парадак.

У медыйнай палітыцы Рафаэля Карэа таксама шмат ад Чавеса. Як і Чавес, Рафаэль мае сваё тыднёвае шоў на тэлебачанні, у якім дае прыкурыць імперыялістам і іх пятай калоне. Праўда, трэба прызнаць, што рыторыка Карэа менш агрэсіўная, чым у нябожчыка Уга. Вядома, што Карэа — заўзяты вернік і патрабуе, каб яго называлі не марксістам, а хрысціянскім сацыялістам.

Асацыяцыі паміж Чавесам і Карэа можна працягнуць і ў індзейскім пытанні. Карэа заваяваў папулярнасць сярод індзейцаў таму, што ён адзіны сярод раскручаных палітыкаў размаўляе на кечуа (адна з моваў мясцовых індзейцаў). Пасля прыходу да ўлады ён зрабіў кечуа афіцыйнай мовай.

А вось чым дакладна Карэа адрозніваецца ад Чавеса — дык гэта маштабам пагляду. Рафаэлю яўна не хапае такога валюнтарызму, размаху думкі, які быў характэрны для Уга. Той думаў глабальнымі катэгорыямі, і нават прыдумаў цэлае вучэнні «балівaрыянства» і «сацыялізм у XXI стагоддзі». Карэа больш сціплы ў сваіх амбіцыях, аднак статус нефармальнага лідара лацінаамерыканскіх левых патрабуе ад яго больш левых і антыімперыялістычных ініцыятыў, у тым ліку на міжнароднай арэне. У гэтым плане візіт Карэа ў Мінск выглядае інтрыгуючым.

**Толькі адзін раз у 2010 годзе Карэа сапраўды маглі пазбавіць пасады. І зрабіць гэта намагаліся яго чыноўнікі і сілавікі, якім ён скараціў льготы. Паліцэйскія спрабавалі арыштаваць прэзідэнта, аднак верныя яму часткі навялі парадак**

АГЛЯД

# ЕЎРАЗІЙСКАЯ МАНІЛАЎШЧЫНА

Алег НОВІКАЎ

**Грамадская думка краін СНД спрабуе пераварыць агучаныя на мінскім саміце лідараў Садружнасці пражэкты аб пашырэнні Мытнага саюза за кошт Індыі, Сірыі, Новай Зеландыі, В'етнаму і Турцыі. Прапануем агляд аналітыкі.**




З практычнага боку ідэя пра прыём Турцыі і Індыі ў склад МС ёсць амаль утопія. Чаму ж тады яна ўзнікла? Ёсць думка, што Пуцін усё гэта робіць пад уплывам унутрыпалітычных абставін

На першы погляд, перад намі або манія геапалітычнай велічы, або дыягназ. Якія эканамічныя праекты можна развіваць з Сірыяй, дзе ідзе грамадзянская вайна? Ну, фразу пра ўступленне Сірыі ў МС яшчэ можна спісаць на спробу (няхай і нязграбную) праявіць нейкую салідарнасць на адрас рэжыму Асада. Але як разумець заявы пра Індыю і Турцыю?

Не будзем казаць пра тое, што, як піша «Коммерсант», ідэя ўступлення Анкары ў МС, выказаная Назарбаевым, стала для самога турэцкага боку сюрпрызам. Згадаем, што цяперашняя спроба еўразійскай інтэграцыі ў сваёй дамінуючай палітычнай трактоўцы мае выразную постсавецкую праекцыю. Таму метраполіяй аб'яднання Пуцін бачыць толькі Маскву, а не Дэлі або Анкару. Турцыя ўжо сапраўды не стане безумоўна слухацца Маскву па той простай прычыне, што не мае такой звычкі.

Але тое, што здаецца нелагічным для адных, цалкам нармальна для іншых, у прыватнасці для расійскіх патрыётаў. Рэмарка Пуціна пра Індыю адразу гальванізавала частку расійскіх патрыётаў, якая дасюль марыць памыць боты ў Індыйскім акіяне. «Стварэнне Мытнага саюза многія заходнія аналітыкі лічылі ўтопіяй, але саюз мацнеў, і Захад пачаў глядзець на гэта аб'яднанне з асцярогай. Пасля таго, як да Мытнага саюза вырашылі далучыцца Індыя і В'етнам, яго моц і ўплыў у свеце значна ўзмоцняцца. Дзецішча Уладзіміра Пуціна можа стаць вельмі ўплывовым гульцом на сусветнай арэне. Гэта не проста эканамічная рэінтэграцыя пэўнай часткі постсавецкай прасторы. Еўразійскі саюз здольны ў бліжэйшы час стаць сапраўднай кантынентальнай садружнасцю народаў, узаемаадносіны якіх не дазволяць трэцім бакам гуляць на пэўных супярэчнасцях суседзяў», — піша Сяргей Васіленкаў.

Аднак нават у такой ура-патрыятычнай тусоўцы ідэя ўзбуйнення МС не знаходзіць падтрымкі. У кантэксце нядаўняга Бірулёва шмат хто згадаў пра тое, што прыём новых краін выклікае адпаведныя працэсы. «Калі такія краіны, як Сірыя або Індыя, і сапраўды будуць уцягнутыя ў МС, то мы вельмі хутка атрымаем новы, велізарны струмень гастарбайтэраў і бежанцаў. Вядома, калі меркаваць разумна, то верагоднасць ўступленне ў МС Турцыі, сур'ёзна ўключанай у працэс еўраінтэграцыі, або самадастатковай у эканамічным плане Індыі не настолькі вялікая. Ім гэта проста не цікава. А вось такая дзяржава-ізгой, як Сірыя, можа і сапраўды пра гэта задумацца. У Сірыі ідзе вайна, прычым там вельмі актыўна ваююць вахабіты з усяго свету, і калі будзе адкрыты свабодны ўезд на тэрыторыю Расіі з Сірыі, то мы атрымаем не толькі сотні тысяч бежанцаў, але і тысячы ісламскіх баевікоў, гатовых зладзіць нам сапраўдны Джыхад», — піша адзін з блогераў.

Адначасова частка эканамістаў лічыць, што ў выпадку рэалізацыі агучанага ў Мінску плана галоўным бенефіцыярам ад еўразійскай інтэграцыі стане Турцыя. «Скончыцца ўсё гэта толькі адным: тым, што РФ стане велізарным рынкам збыту для турэцкіх і індыйскіх тавараў — і сыравіннай правінцыяй маладых індустрыяльных краін. Як калісьці брытанцы зрабілі Індыю рэгіёнам для продажу прадукцыі тэкстыльнага Манчэстэра. Гэтак жа будзе і з турэцкім легпрамам, які атрымае магчымасць гандляваць тут бяспошлінна. Ну, а там падцягнецца і іншая садавіна-гародніна: у адрозненне ад РФ, Турцыя змагла зацягнуць да сябе вытворчасць еўрапейскай бытавой электронікі. Потым яшчэ і турэцкія садавіна-гародніна рушаць след: яны так Грузію скарылі. Прыкладна гэтак жа спрацуюць і індыйцы, калі атрымаюць права бяспошліннага гандлю тут. Сюды пойдуць не толькі тэкстыль і гародніна (індыйскія агуркі, скажам), але і лекі, і электроніка, і нават аўтамабілі. Кажуць, Турцыя пакуль не пацвердзіла словы Назарбаева. Дзякуй Богу. А то Пуцін, бадай, не супраць. Чорт, а раптам Анкара возьме ды і пагодзіцца?» — піша Міхаіл Калашнікаў.

Калі з практычнага боку ідэя пра прыём Турцыі і Індыі ў склад МС ёсць амаль утопія, што тады рухала лідарамі МС? Ёсць думка, што Пуцін гэта робіць пад уплывам унутрыпалітычных абставінаў. Яму трэба падтрымліваць свой рэйтынг, які будуецца на яго іміджы «збіральніка былых савецкіх рэспублік».

Больш папулярная версія — Пуцін папросту даў волю эмоцыям. Як кажа дырэктар Савета па нацыянальнай стратэгіі Валерый Хамякоў, выказванне расійскага прэзідэнта падобна на чыстую чалавечую праяву крыўды: «Заявы пра тое, што Індыя, Сірыя і Турцыя хочуць уступіць у Мытны Саюз, выглядаюць як спроба знайсці адказ на пастаўленае Пуціным самому сабе пытанне, як ён цяпер застанецца без Украіны. Рэзкае адштурхванне Украіны Пуціным мяне здзівіла. Падобна на крыўду. Маўляў, амаль дзесяць гадоў апекаваўся і песціў Януковіча, а той выконвае праграму, з якой на выбары ішоў Ючшанка».

Так ці інакш, тэма пра тое, што Турцыя можа замяніць Украіну ў МС, яшчэ больш раз'юшыла ўкраінцаў і пашырыла кола еўрафілаў. Як вядома, Турцыя — адна з першых краін, якія падпісалі дамову з ЕС аб вольным гандлі, аналагічную той, якую ў лістападзе плануе падпісаць Кіеў. Атрымліваецца, што Турцыі з такім статусам можна ў МС, а Украіне — не.

Аднак, магчыма, эмоцыі тут не пры чым. Пасяджэнне Вышэйшага Еўразійскага эканамічнага савета выявіла адну вельмі важную рэч: нягледзячы на публічна заяўленыя агульныя мэты і погляды на інтэграцыйныя працэсы, у кожнай з краін-удзельніц ёсць і будуць свае, адрозныя ад іншых партнёраў стратэгічныя інтарэсы. Да гэтых інтарэсаў адносіцца і нежаданне цалкам пераварацца ў шасцёркі Масквы. Каб аслабіць яе ўплыў, Мінск і Астана паспрабуюць прыцягнуць у МС хоць Антарктыду.

Казахскі палітык Серыкжан Мамбеталін слушна адзначае: «Мэта прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна — адрадзіць Савецкі Саюз пад шыльдай спачатку Мытнага, а затым Еўразійскага саюза. Гэта разумеюць ужо ўсе, уключаючы Назарбаева. Таму ён і прапануе такія хады, як уключэнне Турцыі ў склад Мытнага саюза».

Безумоўна, за ўсімі прыёмамі хаваецца больш глабальная праблема. Юрый Крупноў, кіраўнік Інстытута дэмаграфіі, міграцыі і рэгіянальнага развіцця (Расія) адзначае: «Існуючую бляўтаніну ў еўразійскай інтэграцыі цалкам адлюстроўваюць вылучаныя Казахстанам і Расіяй прапановы аб пашырэнні Мытнага саюза за кошт Турцыі і Індыі... Гэта паказвае, што сённяшняя штучная інтэграцыя прасоўваецца з вынікамі, невядомымі для яе ініцыятараў. Гэта азначае, што праект Мытнага саюза і АЭП носіць павярхоўны ідэалагічны характар».

А вось газета «Свободная пресса» піша: «Асноўным стымулам для еўразійскай інтэграцыі з'яўляецца непрыхаванае жаданне трох аўтарытарных кіраўнікоў бясконца працягваць свае паўнамоцтвы з нязменнай спасылкай на карысць для насельніцтва, пазбаўленага права выбіраць».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### СЕРДЖЫА МАСА



Маса — лідар аргентынскай партыі «Фронт абнаўлення». Спіс «Фронту абнаўлення» перамог на выбарах у ніжнюю палату і Сенат. На думку аглядальнікаў, перамога Маса значыць пачатак канца эры кіршнерызму — часу, калі Аргенцінай кіравала сужэнства Кіршнераў. Спачатку (2003–2007) прэзідэнтам быў Нестар Кіршнер, а пасля яго смерці двойчы на прэзідэнцкіх выбарах перамагала яго жонка Крысціна. Крысціна Кіршнер не супраць абірацца і надалей, аднак гэта не дазваляе канстытуцыя. Мінулыя выбары, на думку сеньёры Кіршнер, павінны былі ліквідаваць гэты недахоп. Атрымаўшы большасць у абедзвюх палатах парламента, яе партыя «Фронт за перамогу» магла правесці адпаведную канстытуцыйную рэформу. Аднак партыя Кіршнер выбары прайграла, атрымаўшы ўсяго 33 працэнты. Адпаведна, ніякай канстытуцыйнай рэформы не будзе, а ў 2015 годзе, калі скончацца паўнамоцтвы Кіршнер, краіна атрымае новага прэзідэнта. Не выключана, што ім стане менавіта Серджыа Маса. Ён, дарэчы, таксама быў кандыдатам падчас апошніх выбараў і здолеў на сваім участку абагнаць канкурэнта — прыхільніка Крысціны Кіршнер на 12 працэнтаў, што, на думку прэсы, вельмі добры паказчык. Застаецца сказаць, што Маса прадстаўляе правае крыло руху пераністаў, або т.зв. пераністаў-дысідэнтаў. Гэта фракцыя пераністаў крытыкуе левы эканамічны курс Кіршнер з пазіцый лібералізму і хрысціянскага кансерватызму.

### ІГАР МАРКАЎ



Украінскі алігарх і палітык Ігар Маркаў — лідар прарасійскай партыі «Родина», якая блакіравалася з Партыяй рэгіёнаў. 24 кастрычніка ён быў арыштаваны і адпраўлены ў следчы ізалятар, што стала сапраўднай інфармацыйнай бомбай. Вельмі рэдка алігархі ва Украіне трапляюць на нары, прычым па ініцыятыве самой улады. Прычынай расправы над Маркавым называюць яго крытыку праеўрапейскага курсу адміністрацыі Януковіча. Спачатку гэта каштавала яму месца ў фракцыі Партыі рэгіёнаў, пасля дэпутацкага значка (суд палічыў, што выбары Маркаў сфальсіфікаваў). Нарэшце, узгадалі, як 2010 годзе Маркаў асабіста збіў групу ўкраінскіх нацыяналістаў, якія пратэставалі супраць адкрыцця ў Адэсе помнікам Кацярыне Другой. Па факту таго, што адзін з пацярпелых пасля стаў інвалідам, супраць Маркава і распачалі справу, якую, дарэчы, доўгі час не адкрывалі. Палітолагі, аднак, лічаць, то геапалітычныя погляды Маркава не маглі стаць нагодай для такога жорсткага прэсінгу. Некаторыя лічаць, што віна ўсяму — ліст Юліі Цімашэнка з зоны, якая назвала Маркава «новым лідарам прарасійскі настроеных грамадзян Украіны», што ў сваю чаргу, быццам, вельмі пакрыўдзіла Януковіча. Яшчэ адна версія — з Маркава робяць украінскага Навальнага (кантраляванага лідара той рускамоўнай часткі насельніцтва Украіны, якая незадаволеная інтэграцыяй краіны з ЕС). Аднак самае цікавае, што вызваленне Маркава патрабаваў Крэмль. Прэса жартуе, што цяпер умовай для ўступлення Украіны ў Мытны саюз можа стаць вызваленне апальнага палітыка.

### СОЛЬВЕЙГ ХОРН



Новы нарвежскі міністр па праблемах дзяцей, роўнасці і сацыяльнай інтэграцыі ад правай Прагрэсіўнай партыі пачала крыжовы паход супраць такой негатыўнай з'явы, як скасаванне шлюбаў. Адпаведна цяперашняй статыстыцы, прыкладна 40 працэнтаў шлюбаў у Нарвегіі распадаюцца, што не можа не выклікаць трывогі ў кансерватараў. Для барацьбы з разводамі міністэрства вырашыла пачаць кампанію, сутнасць якой — прымусіць сямейныя пары праводзіць больш вячэрніх рамантычных спатканняў. «Вельмі важна знайсці трошкі часу, каб як мага часцей быць разам. Можна проста пайсці ў кіно або пару гадзін пагуляць без дзяцей», — раіць міністр. Навіна выклікала супярэчлівую рэакцыю ў грамадстве. Частка нарвежцаў задаволеная ініцыятывамі ўраду, паколькі спачатку ўсе чакалі ад новага міністра больш эксцэнтрычных рэчаў. Сольвейг праславілася на ўсю краіну пасля таго, як заявіла, што ахвяры згвалтавання самі вінаватыя, паколькі часта правакуюць гвалтаўнікоў сваёй вопраткай. Крытыкі Сольвейг звяртаюць увагу на тое, што па сутнасці яе кампанія — гэта імпарт ідэй правых рэспубліканцаў ЗША. Тыя даўно агітуюць за такія спатканні і нават вылічылі, што 3,5 спаткання на тыдзень гарантуюць доўгую сямейную гармонію. Цікава, што сама Сольвейг Хорн таксама ў свой час падала на развод. Як і трэба было чакаць, міністр лічыць, што развод адбыўся з-за таго, што яна і муж на рэгулярнай аснове не мелі рамантычных спатканняў.

ДАТА

# Кастусь Езавітаў: ПАМІЖ «ОЗАЛАМ» І «БРАНЯНОСЦАМ»

## 5 ЛІСТАПАДА СПАЎНЯЕЦЦА 120 ГАДОЎ АД НАРАДЖЭННЯ ГЕНЕРАЛА ЕЗАВІТАВА

Алесь КІРКЕВІЧ

**З пажаўцелага крыху, абробленага па краях фота глядзіць мажны чалавек у цывільнай вопратцы, у яго валявы выраз твару, поўны ўнутранай годнасці і самаўпэўненасці. Поруч — разная прыгожая альтанка, выгнутыя спінкі драўляных лавак, выкладзены неапрацаваным каменнем грот — курортны экстэр'ер.**



Езавітаў, Кемеры, Латвія, 1934



Езавітаў, Кемеры, Латвія, 1934

Ніжэй — гледзячы па ўсім, сажалка: у спакойнай вадзе адбіваюцца чорнымі ценямі альтанка, каваная агароджа і… абрысы былога міністра вайсковых справаў БНР, каменданта Мінску, дэлегата Першага Усебеларускага з'езду.

На зваротным баку напісана: «Яго міласці Сымону Міхайлавічу Якавюку з сямейкай на доўгі ўспамін 20.IX.1934. Кемеры (назва курорта ў Латвіі — зусім неразборліва)» і размашысты подпіс. Картачка знаходзіцца ў прыватнай калекцыі і патрапіла мне ў рукі цалкам выпадкова.

Фотаздымкаў Кастуся Езавітава з 1930-х гадоў захавалася зусім няшмат — большасць з іх калектыўныя фота з беларускіх дыяспарных мерапрыемстваў у Латвіі. Акурат гэты (аднойчы друкаваўся яго аналаг) — быў падараваны Сымону Якавюку, беларускаму дыяспарнаму дзеячу ў Ковенскай Літве, былому паслу польскага сейму і… савецкаму шпіёну, які, як высветлілася адносна нядаўна, вёў падрыўную дзейнасць у беларускіх антысавецкіх арганізацыях.

Асоба Езавітава ўсплыла з забыцця ў 1990-х гадах на хвалі публікацыяў у часопісах «Спадчына» ды «Нёман». Спадчынны вайсковец, таленавіты педагог, вайсковы міністр БНР, завадатар беларускага жыцця ў міжваеннай Латвіі, генерал БКА, нарэшце, вязень мінскай «Амерыканкі», дзе ў турэмным шпіталі яго і знайшла смерць у 1946 годзе.

Менавіта Езавітаў кіраваў вайскова-дыпламатычнай місіяй БНР у Прыбалтыцы, дзе перацягнуў на бок маладой рэспублікі генерала Булак-Балаховіча разам з яго легендарным «Асобным аддзелам». Можна з упэўненасцю казаць, што Езавітаў найбольш прыклаўся да стварэння беларускіх вайсковых фармаванняў падчас Грамадзянскай вайны.

У сваіх «Змагарных дарогах» Кастусь Акула так апісвае Езавітава-педагога: «Чаго ходзіце такія згорбленыя, скрыўленыя, быццам бы цяжар усяго свету на сваіх хрыбтах цягалі? — дапякаў часценька настаўнік Канстантын Барысавіч (…) вучням. — Палякі ці маскалі няхай так ходзяць, але не мы, беларусы. Ніколі не забывайцеся, што на нас, беларусаў, увесь свет глядзіць…» Там жа знаходзім, што акурат за сваю вайсковую выпраўку ды хаду Езавітаў атрымаў ад вучняў мянушку «Браняносец». «Быў чалавекам надзвычай высокае асабістае маралі, нацыянальнага гонару і духовае чысціні», — рэзюмуе Акула.



Душэўскі і Езавітаў (у складзе вайскова-дыпламатычнай місіі ў Прыбалтыцы, 1919)

Езавітаў — ідэальны персанаж для пантэону беларускіх герояў, каб не звесткі пра ягоную супрацу з савецкімі органамі, што вынікае з прадмовы А. Хацкевіча да тэксту ўспамінаў генерала ў «Нёмане» (№3, 1993): «З 1925 па 1934 год Езавітаў, па ягоных словах, супрацоўнічаў, пад мянушкай «Озал», з савецкім паўпрэдам у Латвіі Чарных, а далей з іншым паўпрэдам Ульянавым. У 1940 годзе пад той жа мянушкай лічыўся ў НКУС Лацвійскай ССР».

Ды і самі рускамоўныя ўспаміны, якія пісаліся хворым Езавітавым у турэмным шпіталі, хутчэй нагадваюць «прызнанне» ў пісьмовай форме, чым твор мемуарнага жанру… Зрэшты, Хацкевіч прыводзіць толькі ўрыўкі ды і звесткі пра супрацу — фактычна пераказвае сваімі словамі ў прадмове.

Зразумела, што на дадзеным этапе, ва ўмовах зачыненых архіваў КДБ, мы не можам праверыць гэту інфармацыю ды адказаць на пытанне адназначна: ці не было ўсё гэта фальсіфікацый з мэтай у чарговы раз кінуць цень на небяспечную для Масквы фігуру? Тым больш не адкажам на пытанне: у якіх умовах Езавітаў перад смерцю мог даваць тыя ці іншыя паказанні…

На першы погляд, усё вышэйсказанае ставіць на Езавітаве крыж. Уявім на хвілінку, што гэта праўда — супраца, савецкія паўпрэды, «Озал»… Але найперш звернемся да часу і месца, дзе жыў наш герой. Міжваенная Латвія, у якой апынуўся Езавітаў, — гэта зусім не спакойная прыморская краіна, а хутчэй малады аўтарытарны рэжым, які развіваўся на фоне этнічнага супрацьстаяння латышоў з палякамі, беларусамі ды рускімі.

Латышскі ўрад неаднаразова выкарыстоўваў «беларускую карту», каб аслабіць палякаў, але як толькі кампактная беларуская дыяспара выходзіла з-пад кантролю (напрыклад, у школах з'яўляліся мапы этнічных беларускіх земляў, куды ўваходзілі і «латышскія» тэрыторыі) — пачыналіся рэпрэсіі з арыштамі і закрыццём навучальных установаў. Першы «беларускі працэс» акурат і меў месца ў 1924–1925, тады Езавітаў правёў у СІЗА 11 месяцаў, пасля чаго быў апраўданы.

Савецкі Саюз скарыстаўся з канфрантацыі, каб схіліць беларусаў на свой бок. Праз савецкае прадстаўніцтва пачынае цячы паток фінансавай дапамогі, літаратуры з БССР, Езавітава запрашаюць на пасяджэнні Акадэміі навук у Мінск, ён піша агляды для «СБ»… Тая ж схема працавала і ў Заходняй Беларусі з Тарашкевічам, Дварчанінам, Лёсікам, Станкевічам, у Літве — з Ластоўскім і іншымі. Дзейнасць — рэпрэсіі — савецкая «дапамога»… Адсюль і выцякае дата «вярбоўкі» згодна Хацкевічу: у 1925 годзе Езавітаў акурат выходзіць з СІЗА.

Цікавы факт: у 1926 годзе Езавітаў здаў у толькі што створаны Беларускі дзяржаўны музей свой БНРаўскі мундзір, які пасля ў 1929-м быў выкарыстаны… падчас здымак фільму «У агні народжаная» пра Грамадзянскую вайну і стварэнне БССР. Па сюжэце ў яго апрануты камічнага выгляду контррэвалюцыянер, які выступае на тле бел-чырвона-белага сцяга.

Пра фармат супрацы мы зноў жа нічога не ведаем: абмяжоўваўся ён культурна-адукацыйнай сферай ці не толькі. Калі верыць «Кароткаму нарысу беларускага пытання», міжваеннаму падручніку для польскіх спецслужбістаў, Езавітаў павінен быў адыграць не апошнюю ролю ў паўстанні на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Каля яго прозвішча стаіць подпіс: «беларускі палкоўнік, прызначаны на высокую пасаду ў камандаванні».

Нагадаем, аднак, што ўсё гэта адбывалася ў атмасферы пагаднення паміж урадам БССР і ковенскім урадам БНР Ластоўскага, на тле рэпрэсіяў супраць беларусаў у Польшчы, калі большасць нацыянальна скіраванага элементу чакала паўстання і хутчэйшага аб'яднання з БССР, дзе поўным ходам будаваўся агульны «Беларускі дом»…

Трэба таксама памятаць, што спецыфікай беларускага нацыянальнага руху на той час была «левізна» (што было абумоўлена палітычнай модай, а таксама сацыяльным становішчам большасці беларусаў-сялян). Той жа польскі падручнік, яшчэ раней, наогул запісвае Езавітава да эсэраў…

З чым жа мог быць звязаны дзіўны канец супрацы ў 1934 годзе? Акурат напярэдадні СССР уступіла ў паласу рэпрэсіяў: згортванне НЭПу, калектывізацыя і раскулачванне, голад у розных рэгіёнах, «ломка» нацыянальнай інтэлігенцыі, рэформа правапісу, справа «Саюзу вызвалення Беларусі»… Для таго, каб не бачыць усяго гэтага, у 1934 годзе трэба было мець аж занадта ружовыя акуляры альбо быць зацятым КПЗБоўцам (шмат хто з іх развітаўся з ілюзіямі толькі на Бутаўскім палігоне ў 1937 годзе…) Мы не ведаем фактаў, але, магчыма, акурат у 1934-м Езавітаў адчуў тую прорву, якая ў хуткім часе засмокча большасць з ягоных таварышаў, што паддаліся на спакусу супрацы з БССР. У другой палове 1930-х гадоў Езавітаў займаецца амаль выключна педагагічнай дзейнасцю.

Тады чаму яго не кранулі ў 1940 годзе, калі Латвію занялі савецкія войскі? Зноўку таямніца… Той кароткі перыяд у Латвійскай ССР Езавітаў узначальваў адну з пачатковых школаў у Рызе. Мажліва, Саветы хацелі ў перспектыве выкарыстаць «беларускую карту» супраць латышоў, мажліва, да часу не чапалі нядаўнюю ахвяру «буржуазнага рэжыму» (Езавітава ў Латвіі арыштоўвалі ў 1930, 1934, 1935 гадах).

Цікавыя аналогіі, дарэчы, узнікаюць з Аўгусцінасам Вальдэмарасам — двойчы прэм'ерам міжваеннай Літвы, заснавальнікам Саюза літоўскіх нацыяналістаў, прафесарам Літоўскага ўніверсітэту. Той таксама залічваў сябе да нацыяналістаў, займаўся педагогікай, уваходзіў у канфлікт з Літоўскім урадам, за што неаднойчы сядзеў: пасля няўдалага путчу ў 1934-м атрымаў 12 гадоў, амніставаны ў 1938-м. З'ехаў на эміграцыю, але, што цікава, у 1940 годзе вярнуўся ў занятую Саветамі Літву. Быў спачатку затрыманы і сасланы, пасля зноўку арыштаваны, памёр у 1942 годзе ў Бутырскай турме.

Некаторыя даследчыкі лічаць Вальдэмараса савецкім агентам, які жыў у Парыжы на эміграцыі на пенсію ад вядомых органаў. Пры гэтым імем Вальдэмараса ў сучаснай Літве названыя вуліцы, ягоныя партрэты друкуюцца на марках…

У нестабільных умовах міжваеннай Еўропы, дзе дробныя нацыі не атрымалі, альбо толькі што атрымалі незалежнасць, іх прадстаўнікі вельмі часта звярталіся па дапамогу да Нямеччыны альбо СССР (часам камбінуючы абодва варыянты). Усе памяталі актуальны вопыт Першай сусветнай вайны, калі ад сутыкнення вялікіх імперыяў выйгралі малыя народы, якія мелі палітычную волю ды нюх на сітуацыю.

Гэтым разам гісторыя не паўтарылася, і шмат хто з прадстаўнікоў нацыянальнай эліты апынуўся закладнікам аднаго з таталітарызмаў, прырэчаны пасля быць праклятым і забытым… У канцы красавіка 1945 хворага на грыжу Езавітава выдае агентам СМЕРШу ягоны ад'ютант, былы вучань Яневіч. Версіі смерці генерала разыходзяцца, як сцяжынкі ў розныя бакі: павешаны ў Віцебску, расстраляны ў «Амерыканцы», памёр ад сухотаў з 3-й ступенню дыстрафіі ў турэмным шпіталі…

Як бы там ні было, на маю думку, справа не толькі ў тым, што камітэт заўжды «плаціць даўгі», але і ў тым, што мы, падобна літоўцам, павінны памятаць сваіх герояў — нават тых, якія на сваім шляху рабілі пэўныя памылкі, застаючыся да канца адданымі нацыянальнай ідэі.

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

# ЮБІЛЕЙНЫ ФЭСТ ВОЛЬГІ ГРЫЦУК

Сяргей ЧЫГРЫН



**29 кастрычніка слаўнай беларусцы з Канады Вользе Грыцук з дому Дуброўскіх спаўняецца 90 гадоў.**

Пачну з верша. Гэты верш нядаўна мне даслаў выдатны наш паэт, даследчык беларускай культуры, краязнавец Сяргей Панізнік. Верш прысвечаны Вользе Грыцук. Эпіграфам верша служаць радкі спадарыні Вольгі: «Мая радзіма — Дзісеншчына… І я не магу зразумець тых, хто лёгка забываецца на сваю зямлю, сваю мову, на ўсё, што робіць чалавека чалавекам». А верш гучыць так:

*Жыла ў Дзісне з Дуброўскімі,*
*Ластоўскімі,*
*Тут чула Жаўняровіча псалмы…*
*Дасюль Дзісна ні крыгамі, ні войскамі*
*Не змецена: тут Адзігітрыя і мы.*
*Да Друі, да Лявонпаля, да Браслава*
*Схіляюцца чупрыны курганоў.*
*І сёння ёй, Васільеўне, прыўкраснага*
*Тут вельмі многа для паромаў-сноў.*
*Дарожкаўскую вуліцу з каштанамі,*
*Муры, капліцу помніла дзяўчо…*
*…Пранесліся нягоды — ураганамі*
*І пад спадзеў падстаўлена плячо.*
*Каханейка пякучае не стоміцца*
*Збіраць сляды дзяцінства ля Дзвіны…*
*Ёй здзейсніцца Дзісна! Вярба памоліцца,*
*Каб наша суайчынніца-патомніца*
*Прыйшла на фэст пад родныя званы.*

Вядома, прыйдзе спадарыня Вольга на фэст, на свой фэст юбілейны, на свой фэст вялікі, шчыры, светлы, беларускі — 29 кастрычніка ў яе дзень нараджэння. І прыйдуць на фэст усе беларусы Канады, Амерыкі, Бельгіі, Германіі, ЗША, Польшчы, Англіі, Беларусі, каб павіншаваць яе з гэтым слаўным юбілеем. А хто на фэст не патрапіць, дык ён абавязкова знойдзе Вольгу Грыцук у канадскім горадзе Кінгстане, каб абняць яе і пажадаць здароўя і толькі здароўя, а таксама падзякаваць за ўсё добрае, што яна зрабіла за сваё жыццё і што працягвае рабіць для беларускай культуры, нягледзячы на свой вялікі ўзрост.

Лісты ад Вольгі Грыцук, якія атрымліваю з Канады, пазнаю адразу па прыгожым, роўненькім почырку. Адкрываю канверт і чытаю: «Пра Вашу кніжку «З беластоцкай зямлі», якую выдала ў Беластоку Праграмная Рада Тыднёвіка «Ніва», я атрымала шмат добрых ацэнак і задавальнення ад беларусаў, для якіх я выслала Вашу кніжку. Доктар Вітаўт Кіпель з Нью-Ёрку прыслаў мне ліст, у якім піша, што шмат чытаў, але Ваша кніжка дапоўніла ягоныя веды. Казаў таксама, што такой кніжкі, добрай кніжкі ніхто яшчэ не напісаў. Пішыце больш, бо гэта вельмі важна і патрэбна для адраджэння нашай Бацькаўшчыны вольнай і незалежнай…»

У іншым пісьме спадарыня Вольга паведамляе: «Сёлета (маецца на ўвазе ў 2011 годзе. — С.Ч.) у красавіку ў Вербную нядзелю адведалі мяне з Таронта ўладыка Святаслаў, які прывёз з сабой спадарынь Наталлю Гардзіенка і Віялету Кавалёву. Наша беларуская арганізацыя Згуртаванне беларусаў Канады ў Таронта запрасіла спадарыню Гардзіенка напісаць кніжку пра Згуртаванне беларусаў у Канадзе. Спадарыня Гардзіенка прыехала ў Канаду на цэлы месяц. Ездзіла ў Манрэаль, Атаву, шукала матэрыялы на кніжку. Да мяне прыехала ў апошні дзень перад выездам у Беларусь. Калі кніжка будзе выдадзена, не ведаю. Усе паперы і дакументы яна сфатаграфавала…»

У пісьме пытаюся ў спадарыні Вольгі, а ці кантактаваў ваш муж, Алесь Грыцук, з беларусамі, калі вучыўся ў Варшаўскім універсітэце? Спадарыня Вольга хутка піша адказ, дзе яна паведамляе і пра Алеся Грыцука: «Мой муж у тым часе ў Варшаве не жыў. Ён у 1930-х гадах настаўнічаў у Браславе і завочна вучыўся ў Варшаўскім універсітэце на гістарычным факультэце. Скончыўшы навуку, ён атрымаў дыплом з тытулам магістра. Я пераглядзела ўсе ягоныя паперы і нічога не знайшла: ані дакументаў, ані лістоў і здымкаў з таго часу. Таксама не ведаю, ці мой муж меў якія-небудзь кантакты з беларусамі ў Варшаве. У 1939 годзе яго з Браслава мабілізавалі ў польскае войска і паслалі на фронт абараняць Варшаву. Там ён быў паранены і забраны ў нямецкі палон. Ляжаў у шпіталі ў Варшаве. Калі набраўся сіл і раны загаіліся, Алесь са шпіталю ўцёк дадому ў Плянту да бацькоў на Беласточчыну. У тым часе Беласточчына ўжо была акупавана Савецкім Саюзам...»

Ажаніліся Аляксей (Алесь) Грыцук з Беласточчыны і Вольга Дуброўская з Дзісеншчыны 1 лютага 1958 года. Як бачыце, у спадарыні Вольгі сёлета два юбілеі: 55 гадоў таму яна выйшла замуж за беластоцкага беларуса, і свой уласны юбілей.

Шлях Вольгі Дуброўскай да Аляксея Грыцука быў няпростым і доўгім. Пра гэта яна вельмі дакладна і шчыра напісала ў сваёй кнізе «Мы стварылі сваю Беларусь» (Мінск, 2007). Кніга ўнікальная, цікава чытаецца, шмат фактаў з уласнай біяграфіі і з біяграфіі Аляксея Грыцука, з жыцця беларусаў у Канадзе.

На Захад Аляксей Грыцук з Беласточчыны паехаў у 1944 годзе. А ў Канаду ён дабраўся параходам з Італіі ў студзені 1948 года. Яго ўзялі ў гэтую краіну па кантракце, які трэба было адрабіць. Цэлы год ён працаваў лесарубам. Было яму нялёгка. Ён перапісваўся толькі з Міколам Ганько. І праз Міколу Алесь выйшаў на Згуртаванне беларусаў Канады, арганізаванае Кастусём Акулам. А калі скончыўся тэрмін кантракту, Аляксей Грыцук прыехаў у Таронта. І там уладкаваўся на фізічную працу і штодня вучыў англійскую мову. У Таронта ён актыўна ўключыўся ў беларускае жыццё. А Вольга Дуброўская ў гэты час ужо жыла ў Польшчы, яны сталі перапісвацца. Тым часам сябры Алеся Грыцука ў Канадзе пачалі пацiху жаніцца, а ён чакаў сваю Вольгу. І вось той дзень наступіў. Вольга Грыцук успамінае: «Увечары са сталіцы Англіі я ляцела трансатлантычным самалётам у Манрэаль з перасадкай у Таронта. У цудоўны сонечны дзень, гадзіне 11-й мяне сустрэў з групай сяброў Алесь — дарагі, чаканы. Ён бег насустрач, схапіў у абдымкі, пакружыў некалькі разоў, аж закружыў мне галаву. Мы абое расплакаліся. Яго сябры апладзіравалі і казалі: "Горка, горка!". А там завезлі нас на кватэру, якую наняў ва ўкраінцаў Глушкоў. Алесь падрыхтаваў сюрпрыз: сам склаў з купленых ім дэталяў тэлевізар і паставіў яго ў пакоі. Тэлевізар тады яшчэ быў вялікай навіной, і мяне ўразіла, што Алесь змог яго сам зрабіць. Ён доўга нам служыў. Першы куплены тэлевізар мы займелі ўжо потым, калі пераехалі ў Кінгстан…»

1 лютага 1958 года Алесь і Вольга ўзялі шлюб. А 8 студзеня 1959 года ў іх нарадзілася дачка Юльяна.

Вольга Грыцук, натхнёная сваім мужам, стала ў Канадзе актыўнай дзяячкай беларускага руху. У 1965 годзе яна была адной з заснавальніц Згуртавання беларускіх жанчын Канады. А 6 снежня 1975 года яе абралі старшынёй Згуртавання беларускіх жанчын Канады. Гэту арганізацыю Вольга Грыцук узначальвала 18 гадоў — да 1993 года.

І 18 гадоў Вольга Грыцук пражыла з Аляксеем Грыцуком. Яго не стала ў траўні 1976 года. Перад смерцю ён казаў: «Беражы Юльянку і глядзі, каб не страціць дом. Я ведаю, ты моцная, ты ўсяму дасі рады».

І мужная жанчына-беларуска сапраўды аказалася моцнай. Яна дала адукацыю дачцэ, дачакалася ўнучку Сафію… Спадарыня Вольга жыла і за сябе, і за Алеся. І працягвае жыць і думаць пра лёс Беларусь, і вельмі спадзяецца, што народ беларускі будзе шчаслівы.

У яе кнігу «Мы стварылі сваю Беларусь» увайшлі і ўспаміны пра Алеся Грыцука. Але ў гэтых успамінах ёсць і радкі-характарыстыкі пра Вольгу Грыцук. Барыс Аляксандрыў кажа пра яе так: «Воля — сціплая, разважная і чуйная». Раіса Жук-Грышкевіч напісала: «Любіў Алесь Грыцук прыгаство, і Бог надарыў яго прыгожай жонкай Вольгай і дачкой Юльянай». Вольга Іпатава шчыра апісвае: «Вольга Грыцук і цяпер захавала былую прыгажосць — сінія вочы, акварэльныя фарбы твару, стройную постаць, мілую ўсмешку і нейкую даверлівую чуллівасць».

Гляджу на фотаздымак спадарыні-беларускі Вольгі Грыцук і думаю, няўжо за плячыма гэта прыгожай і мужнай жанчыны дзевяць дзясяткаў гадоў. Шмат ёю перажыта, шмат пабачана, шмат зроблена. Хочацца верыць, што яе жыццёвы фэст будзе працягвацца да наступных юбілеяў, бо для беларусаў і Канады, і Беларусі, і Польшчы, спадарыня Вольга заўсёды з'яўлялася прыкладам, як трэба шчыра любіць сваю Бацькаўшчыну, свой народ, родную мову. Любіць, шанаваць, перажываць за беларускасць да апошняга дыхання, да апошняга імгнення. Са слаўным Вас юбілеем, спадарыня Вольга!

ЦІКАВА

# 366 ДЗЁН З БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫЯЙ

**«Круглы год з беларускай гісторыяй» — пад такой назвай быў выдадзены каляндар на 2014 год паводле аднайменнага анімацыйнага фільма. Кампанія «Будзьма беларусамі!» адмыслова абрала для стварэння календара высакосны год, каб усе ахвотныя змаглі прабыць з беларускай гісторыяй як мага даўжэй.**




Каляндар працягвае добрую традыцыю «беларускае ў простых рэчах». Раней паводле мультфільма грамадскай кампаніяй была выкладзеная для вольнага доступу і выдадзеная лімітаваным тыражом маляванка для самых маленькіх беларусаў «Будзьма беларусікамі!». Створаная рэжысёрам стужкі Юліяй Рудзіцкай з пераасэнсаванымі тэкстамі ад Лявона Вольскага, маляванка мела поспех сярод самай маладой аўдыторыі. І дарослымі гэта было заўважана. Праўда, выклікала гэта і незадаволенасць з іх боку, маўляў, «ну вось, дзеткам маляванку, а мы хоць бы каляндар які…»

Пакідаць гэта без увагі — недаравальна, амаль крымінальна. Таму кампанія вырашыла парадаваць дарослых беларусаў якасным паліграфічным выданнем. Дзякуючы яму цягам года штодня з кожным уладальнікам гэтага календара будуць яскравыя селебрыці беларускай гісторыі, пераасэнсаваныя ў вершах падзеі і непарушна добры настрой.

Адаптацыю кадраў мультфільма для календара зрабіла Юлія Рудзіцкая, а вершы перапісаў пад каляндарны фармат Лявон Вольскі. Нагадваем, што анімацыйны фільм «Будзьма беларусамі!» стаў прызёрам шматлікіх конкурсаў і сабраў больш за мільён праглядаў на розных сервісах. Аўтары ідэі — Юлія Ляшкевіч і ГКК «Будзьма беларусамі!».

Хай найцікавейшая беларуская гісторыя будзе з намі круглы год!

Пытайце каляндар у кнігарнях: Акадэмкніга, Кнігарня пісьменніка, кнігарня «ЛогвінаЎ», кнігарня «Веды», Цэнтральная кнігарня, кнігарня «Кнігі і кніжкі», кніжная выстава на ВДНГ.

Паводле budzma.org

ЛІСТ У НУМАР

# БЕЛАРУСЬ — РАДЗІМА НАЗАЎЖДЫ

Лявон ЦЕЛЕШ

**Упершыню імя Вячкі Целеша — мастака, краязнаўцы, філакартыста, грамадскага дзеяча — мне стала вядома ў канцы 1980-х гадоў. Калі я патрапіў на кнігу «Мінск на старых паштоўках». Імя аўтара — Вячкі Целеша, майго цёзкі па прозвішчу, зацікавіла.**


Фота аўтара
Вячка Целеш

Першая мая сустрэча з гэтым цудоўным чалавекам адбылася ў 1991 годзе ў Рызе, дзе ён жыве ўжо 55 гадоў. У той час я адпачываў у адным з санаторыяў Юрмалы, і ў мяне ўзнікла жаданне сустрэцца з Вячкам Целешам, пазнаёміцца з ім; а раптам ён мой сваяк? Даведачнае бюро выдала мне нумар тэлефону мастака, і ў тэлефоннай размове Вячка Целеш запрасіў мяне ў госці ў яго мастацкую студыю.

За кубачкам кавы гасцінны гаспадар распавёў мне пра сваё жыццё, творчы шлях. Высветлілася, што мы толькі цёзкі па прозвішчы: мае бацькі з боку маці і бацькі нарадзіліся на Гомельшчыне, а малая радзіма Вячкі Целеша — пасёлак Краснасельскі, што пад Ваўкавыскам, дзе 75 гадоў таму, 25 верасня 1938 года, убачыў свет наш слынны зямляк. У гэтым пасёлку яшчэ захавалася бацькава хата; зараз там жывуць сястра і брат Вячкі Целеша. Штогод мастак разам з жонкай наведвае родныя мясціны.

У Латвію Вячка Целеш прыехаў 20-гадовым хлопцам, каб уладкавацца на працу, і тут, у 120 кіламетрах ад Рыгі, у Броцэні, на цэментным заводзе пачаў працаваць слесарам. Адсюль ён пайшоў і ў армію; служыў у Вільні ў 1961–1964 гадах. А калі вярнуўся са службы, паступіў у Латвійскую дзяржаўную мастацкую акадэмію імя Т. Залькална, скончыў яе ў 1975 годзе, ажаніўся.

Вячка Целеш — адзін са слынных людзей Латвіі. Сваю шматгранную творчасць мастак прысвяціў як Беларусі, так і блізкай яму Латвіі (творы, прысвечаныя Францыску Скарыну, Янку Купалу, Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу, Янісу Райнісу). Яго карціны знаходзяцца ў прыватных зборах і музеях многіх краін свету, ён — чалец Саюза мастакоў Латвіі і Беларусі.

Асобнае месца ў творчасці Вячкі Целеша займае экслібрыс. Мастак стварыў серыю экслібрысаў выдатных дзеячаў гісторыі, культуры, літаратуры — такіх, як Зоська Верас, Рыгор Барадулін, Уладзімір Караткевіч, Адам Мальдзіс. Ва ўсіх творах мастака — ці то жывапіс, ці то графіка, ці то экслібрыс — адчуваецца магічнае цяпло роднай Бацькаўшчыны.

У свой час мастак ліставаўся і падтрымліваў добрыя сяброўскія адносіны з выдатнай беларускай паэткай Ларысай Геніюш, а таксама з пісьменніцай Зоськай Верас. А ў 2006 годзе ўрад Латвіі ўганараваў нашага земляка вышэйшай узнагародай Латвійскай рэспублікі — Ордэнам Трох Зорак.

Імя Вячкі Целеша добра вядома і на міжнародным узроўні: яно ўнесена ў каталог «Сусветны экслібрыс», у міжнародны каталог «Мініяцюрная графіка і экслібрыс», а таксама ў «Сусветную 80-томную энцыклапедыю мастакоў усіх часоў і народаў».

Акрамя кнігі «Мінск на старых паштоўках» у свет выйшлі і такія творы Целеша, як «Гарады Беларусі на старых паштоўках», за якую аўтар атрымаў прэмію імя Багушэвіча Беларускага ПЭНцэнтра, а таксама «Рыга на старых паштоўках».

За плячыма Вячкі Целеша — звыш 100 выставаў у розных краінах свету, у тым ліку і ў Беларусі. Першая буйная выстава яго мастацкіх твораў у Беларусі адбылася ў 1992 годзе ў Нацыянальным мастацкім музеі.

Праз 17 гадоў пасля нашай сустрэчы ў Рызе, у 2008 годзе, у мяне адбылася другая сустрэча з Вячкам Целешам, на гэты раз на адкрыцці выставы яго графічных работ, якая ладзілася ў мінскай кавярні фальварка «Добрыя мыслі». Напярэдадні адкрыцця выставы я атрымаў паштоўку з Рыгі з выявай яго карціны «Дзвіна — Даўгава — маці наша», якой Вячка Целеш запрашаў мяне на выставу.

На прэзентацыю выставы я прыйшоў разам са сваёй жонкай Людмілай і ўнучкай Алёнкай. Мяне прыемна ўразіла, колькі выдатных людзей Беларусі прыйшло на адкрыццё выставы: паэты Генадзь Бураўкін і Алесь Разанаў, гісторык Захар Шыбека, мастак Віктар Маркавец… Вельмі трапныя словы ў адрас Вячкі Целеша прагучалі ад Алеся Разанава. Ён сказаў: «Вячка Целеш — пасол Беларусі, яе мовы, рэчаіснасці, і ўсё, што ён стварае, даследуе — увазходзіць у вечнасць».

І паэт мае рацыю: сэрца Вячкі Целеша заўсёды стукала ў адным рытме з беларускім жыццём. У Рызе больш за 20 год існуе беларуская школа, ініцыятарам стварэння якой і яе першым дырэктарам быў Вячка Целеш. Шмат хто тады казаў яму: «А навошта тая беларуская школа? Хопіць рускай і латышскай». А Целеш адказваў, што ён — беларус з першага дня свайго жыцця, і хоча, каб прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Латвіі не забывалі матчынай мовы.

**Гэта першая ў Беларусі кніга, у якой даследаваўся б радавод простай сям'і беларускага, у мінулым прыгоннага, хлебароба. У радаводзе Целешаў не было прадстаўнікоў шляхты**

Пасля арганізацыі беларускай школы мастак стварыў беларускую мастацкую студыю «Вясёлка», а потым — аб'яднанне мастакоў-беларусаў Балтыі «Маю гонар», у якое ўвайшлі беларусы Латвіі, Літвы, Эстоніі, і нават Санкт-Пецярбурга.

Выконваючы шматлікія грамадскія абавязкі, наш зямляк з'яўляецца яшчэ і дацэнтам кафедры культуры і мастацтва Інстытута менеджменту інфармацыйных сістэм.

А сёлета, у ліпені, мне пашанцавала сустрэцца з Вячкам Целешам у трэці раз: наша сустрэча адбылася ў Інстытуце культуры Беларусі, на адкрыцці аб'яднанай мастацкай выставы «Беларусы ў свеце». Выдатны мастак перадаў у падарунак Бацькаўшчыне 16 акварэльных, графічных і жывапісных карцін мастакоў беларускай дыяспары, сярод якіх такія выдатныя яго палотны, як «Францыск Скарына ў Рызе», «Князь Вячка», «Сосны ў ячменным полі» і іншыя.

Падчас гэтай адметнай культурнай падзеі Вячка Целеш, расчулены вельмі цёплым прыёмам, сказаў: «Нам, мастакам — беларусам замежжа, вельмі патрэбны выставы ў Беларусі. Вядома ж, мы экспануемся ў Латвіі ды іншых краінах, але тут мы — усё роўна больш родныя».

А зусім нядаўна я атрымаў з Рыгі ад Вячкі Целеша электроннае паведамленне, што ён прыязджае ў Мінск, каб атрымаць з выдавецтва сваю кнігу. 19 верасня на мінскім чыгуначным вакзале мастака сустракаў яго даўні сябра пісьменнік Сяргей Панізнік. Дзень прыезду выдаўся для Вячкі Целеша вельмі напружаным: наведванне выдавецтва, сустрэчы з прафесарам Адамам Мальдзісам, пісьменнікам Анатолем Бутэвічам, інтэрв'ю беларускаму радыё, тэлеканалу «Белсат», газеце «Літаратура і Мастацтва». У Нацыянальным гістарычным музеі мастак азнаёміўся з выставай, прысвечанай беларускаму нацыянальнаму герою Кастусю Каліноўскаму. Вечарам, 20 верасня, Вячка Целеш ад'ехаў у Рыгу.

Перад ад'ездам мы сустрэліся на вакзале, дзе наш выдатны суайчыннік падарыў мне сваю толькі што выйшаўшую ў свет кнігу «Адсюль наш род, тут мой прычал», якая выйшла невялікім тыражом — усяго 400 асобнікаў. У гэтым цікавым навукова-папулярным выданні мастак, пісьменнік Вячка Целеш даследуе паходжанне свайго прозвішча, гісторыю вёскі Краснае Сяло, пасёлка Краснасельскі, гісторыю свайго роду пачынаючы з XVIII стагоддзя. У кнізе змешчана больш за 700 фотаздымкаў.

У час гутаркі Целеш адзначыў, што задума напісаць такую кнігу выспела ў яго каля 20 гадоў таму. Адам Мальдзіс адзначыў, што гэта першая ў Беларусі кніга, у якой даследаваўся б радавод простай сям'і беларускага, у мінулым прыгоннага, хлебароба. У радаводзе Целешаў не было прадстаўнікоў шляхты, і паходжанне прозвішча Целеш мае глыбокія беларускія карані. Калі выпадзе магчымасць, Вячка Целеш плануе арганізаваць прэзентацыю сваёй кнігі ў Мінску і Ваўкавыску. На развітанне я сфатаграфаваў Вячку Целеша. І хаця наш слынны зямляк жыве ў суседняй краіне, але Беларусь для яго — Радзіма назаўжды. 25 верасня Вячаславу Міхайлавічу Целешу споўнілася 75 гадоў. Новых творчых поспехаў Вам, спадар Вячка, моцнага здароўя! Спадзяюся, што да гэтых маіх добрых пажаданняў далучацца ўсе жыхары нашай Бацькаўшчыны.




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1345

Падпісана да друку 01.11.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.